
свабода

www.svaboda.by
NPSvaboda@irex.minsk.by

№65 (292) 26 ліпеня 2002 пятніца кошт свабодны падпісны індэкс 63478



# Селектарная нарада

*Нельга здабыць перамогу без кулака сталёвай тэхнікі*


Фота У. Шпакава

**Надзвычайная сітуацыя, якая не па канстытуцыйных нормах абвешчана ў Беларусі, працягвае штучна напальвацца. У мінулы чацвер уся шматсоценная камандзірская рать калгасна-саўгаснай адміністрацыйнай сістэмы была выклікана на суворы тэлеўрок.**

Насуперак свайму ж загаду не збіраць сходы ў гарачы час працы, Аляксандр Лукашэнка вымусіў мясцовых кіраўнікоў кінуць справы амаль на цэлы дзень. Селектарная нарада не скончылася ў тую хвіліну, як з экрану БТ знік твар і голас галоўнага тэлегероя спецрэпартажаў АТН. Мікрафоны, падключаныя да міжгародних ліній сувязі з гукаўзмацняльнікамі на выхадзе ў калектыўных студыях у райцэнтрах, пераймалі старшыні аблвыканкамаў. Пасля прылюднага наганяю з Мінску галоўныя «вертыкальшчыкі», кожны ў сваім рэгіёне, муштравалі чыноўнікаў ніжэйшага рангу. Калі адключыліся абласныя цэнтры, настаў час разгону ад старшыняў гар- і райвыканкамаў. Супакою ад гэтай крыклівай гаварыльні не было да ночы, бо а 21:00 «Панарама-пiларама» зноў круціла тэледзею, дзе вінаватымі выглядалі ўсе, акрамя аднаго.

Заканчэнне на стар. 3

ЮСТЫЦЫЯ

## Чыгіру далі тры гады

*Але з адтэрміноўкай выканання прыгавору на два гады*

23 ліпеня ў судзе Фрунзенскага раёну Мінску абвешчаны прысуд былому прэм'ер-міністру Беларусі Міхаілу Чыгіру – тры гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысуду на два гады, а таксама пазбаўленне на пяць гадоў права займаць пэўныя пасады, звязаныя з гаспадарча-распарадчай дзейнасцю.

Суддзя Наталля Варэнік, якая чытала прыгавор каля трох гадзін, прызнала падсуднага вінаватым ва ўтойванні падаткаў і ўхіленні ад падачы падатковых дэкларацый, што нанесла дзяржаве шкоду ў асабліва буйных памерах. З улікам пені і іншых налічэнняў шкода склала 8 млн. 57 тыс. 355 рублёў. М. Чыгір абавязаны пакрыць нанесеную шкоду. Ён не можа пакідаць месца жыхарства без дазволу органаў МУС.

Па другім пункце абвінавачання – службовая халатнасць у сувязі з выплатай авансавага плацяжу ў памеры больш за 1 млн. даляраў ЗША канадскай фірме для будаўніцтва новага будынка «Белаграпрамбанку» – суд палічыў віну М. Чыгіра даказанай. Аднак у сувязі з заканчэннем тэрміну даўнасці спыніў вытворчасць.

М. Чыгір і яго абарона катэгарычна не згодныя з прысудам і неўзабаве абскардзяць яго. Асуджаны лічыць, што пад прыкрыццём крымінальнага заканадаўства ўлады пераследуюць яго за палітычную дзейнасць.

Генадзь БАРБАРЫЧ

# Ізраільскі пасол пакуе чамаданы

Раман ЯКАЎЛЕЎСКІ

Своеасаблівы сюрпрыз да вынiковага паседжання калегіі Міністэрства замежных справаў Беларусі, якое адбылося 24 ліпеня з удзелам прэзідэнта Лукашэнкі, паднесла Дзяржава Ізраіль. У мінулы панядзелак, 22 ліпеня, міністр замежных справаў Шыман Перэс пазнаёміў высокапастаўленых чальцоў кабінету са спісам пасольстваў і консульстваў, якія будуць зачыненыя ў сувязі з праграмай скарачэння выдаткаў міністэрства на 40 млн. шэкеляў. У спіс трапілі пасольствы ў гарадах Харарэ (Зімбабвэ), Панама-сіці, Мінску, Велінгтане (Новая Зеландыя), а таксама консульствы ў Манрэалі, Сіднеі, Рыо-дэ-Жанейра і Марселі. Гэтую навіну для грамадзян Беларусі – землякоў Шымана Перэса – пацвердзіў адзін з супрацоўнікаў ізраільскага пасольства ў Мінску, які пажадаў застацца невядомым. Пакуль што беларускі МЗС і чыноўнікі з іншых дзяржаўных структураў з гэтай нагоды маўчаць.

Нельга сказаць, што «спіс Перэса» атрымаў поўную падтрымку чальцоў ізраільскага ўраду. На згаданым паседжанні выказвалася незадаволенасць дзеяннямі кіраўніка знешнепалітычнага ведамства. Гучалі і перасцярогі, што скарачэнне колькасці дыпламатычных місіяў адмоўна адаб'ецца на рэпутацыі Ізраілю, на яго сувязях з іншымі дзяржавамі, перашкодзіць працягваць міжнародную барацьбу з антысемітызмам. Варта адзначыць, што ўрад не можа накласці сваё вета на гэтае рашэнне, названае «страшнай памылкай».

Заканчэнне на стар.

ВАЛАНЦЁРЫ

## *Летнік ля Гальшанскага палацу*


Фота У. Шпакава

З 17 па 22 ліпеня ў мястэчку Гальшаны адбыўся маладзёжны летнік, ініцыятыва правядзення якога належыць кіраўніку Інфармацыйна-тэхнічнага цэнтру «Рэгіён» Пятру Явідовічу. Падчас летніка паўтара дзесятка маладых людзей адпачывалі і працавалі на развалінах Гальшанскага палацу. Яны расчышчалі замчышча ад дрэваў, кустоўя і смецця.

ЭКАНОМІКА

## Кадравая надзея

Беларуская студэнцкая каманда выйшла ў фінал міжнародных спаборніцтваў па мадэляванні эканомікі і менеджменту, якія штогод праводзяцца Гарвардскім вылічальным цэнтрам. Сёлета за выхад у фінал змагаліся 1 125 каманд з 65 краінаў свету. 8 наймацнейшых з іх, у тым ліку беларусы, сустрэнуцца 15 жніўня ў амерыканскім Сан-Дыега.

## *На Чорным моры ратавалі беларуса*

Блізу трох гадзін шукалі адэскія ратаўнікі серфінгіста з Беларусі. Беларускі турыст выправіўся ў мора на ветразёвай дошцы з адэскага пляжа на Фантанцы, і яго занесла далёка ў мора. Пошукі прайшлі ўдала, і 28-гадовага беларуса выратавалі.

## «Белшына» ідзе далей

Футбалісты бабруйскай «Белшыны» выйшлі ў другі кваліфікацыйны раўнд Лігі чэмпіёнаў. 24 ліпеня на сваім полі, адказваючы на матч першага раўнду, бабруйчане перамаглі клуб «Партадаун» з Паўночнай Ірландыі з лікам 3:2. Цяпер «Белшына» будзе гуляць з ізраільскім «Макабі».

КУРС НАЯЎНАГА ДАЛЯРА НА «ЧОРНЫМ РЫНКУ»


1840

ГАСПАДАРКА

# Штучнае свята

**14 верасня ў сталіцы маюць прайсці святкаванні з нагоды Дня гораду. Мяркую, шмат хто зараз са здзіўленнем пытаецца, які яшчэ Дзень Мінску, чаму ў верасні, чаму менавіта 14-га чысла, хто, чаму і з якое пары вызначыў гэтую дату?**

Такое рашэнне мінскія ўлады прынялі яшчэ летась – святкаваць Дзень гораду кожную другую суботу першага восеньскага месяца. Карацей, гэта дата перасоўная, і ў 2002 годзе яна прыпала на 14 верасня. Хоць святкаванні захопяць яшчэ і нядзелю, 15 верасня. Патрэба прыдумаць, калі адзначаць Дзень Мінску, узнікла пасля таго, як традыцыйнае свята беларускай сталіцы і менчукоў – 3 ліпеня, Дзень вызвалення Мінску – ператварылі ў аморфныя Дзень незалежнасці ды Дзень Рэспублікі. Некалькі гадоў 3 ліпеня па інерцыі працягвалі адзначаць і Дзень вызвалення Мінску, але новыя святы спрэс яго засцілі. Мінск практычна пазбавіўся гарадскога свята. Таму было неабходна прыдумаць новую дату.

І яе прыдумалі. Галоўны прынцып, якім кіраваліся пры гэтым, быў такі: прызначыць Дзень гораду на такую пару, якая не загружаная святамі. Выпала на восень. Таму, дарэчы, была адрынутая такая гістарычная і слушная дата, як 3 сакавіка. Гэты дзень 1067 году (бітва на Нямізе) пазначаны ў першай летапіснай згадцы пра Мінск. Яшчэ адным матывам было тое, што, маўляў, людзі ў гарады з летніх адпачынкаў ды вакацыяў вяртаюцца. Праўда, як жа ж быць з дачнікамі, якія 14 верасня, хутчэй за ўсё, будуць збіраць ураджай на сваіх сотках, а не шпацыраваць па праспекце Скарыны?

**Кірэй МАНУЙЛА**

## Забарона ў Дзень незалежнасці

Гродзенскія ўлады адмовілі групе грамадзянаў, якія хацелі адзначыць урачыстым сходам Дзень незалежнасці 27 ліпеня. Гарвыканкам спаслаўся на тое, што сярод заяўшчыкаў ёсць асобы, якіх каралі ў адміністрацыйным парадку за ўдзел у несанкцыянаваных акцыях. Падобную незаконную спасылку гарвыканкам ужо выкарыстоўваў сёлета. Справу тады разглядаў суд, які прызнаў падобную падставу для адмовы незаконнай, бо гэта абмяжоўвае канстытуцыйныя правы грамадзянаў.

**Сяргей БАЗЫЛЕВІЧ**



Фота IREX/ProMedia

**Будоўля крытага футбольнага манежа, праспект Машэрава, г. Мінск. 23 ліпеня 2002 году.**

РЭГІЁН

## Збанкі на гербе

Свой герб займеў горад Докшыцы. Новы геральдычны знак уяўляе сабой зялёны шчыт, унізе якога па кутках размешчаныя два цёмныя ўзгоркі, якія сімвалізуюць няроўны рэльеф тамтэйшай мясцовасці. У цэнтры відарысу – два чырвоныя збанкі, з якіх у супрацьлеглыя бакі выцякаюць срэбныя ручаі, нагадваючы тым самым, што ў Докшыцах бяруць пачатак рэкі Бярэзіна і Вілія.

Паводле адмысловага статусу, што надала гербу сесія райсавету, ён будзе прадстаўлены на масавых цырымоніях і ўрачыстасцях. Калі прадпрыемствы альбо прадпрымальнікі пажадаюць выкарыстоўваць геральдычную сімволіку ў маркіроўцы тавару, за гэта ім давядзецца плаціць грошы. Мясцовая «вертыкаль» адразу замацавала за сабой выключнае права распараджацца гербам як уласнасцю.

## Ні кватэры, ні машыны

Без розыгрышу галоўных прызоў – кватэры ў Мінску і двух легкавых аўтамабіляў – завершылася латарэя, прымеркаваная да 900-годдзя Барысава, што адзначалася ў ліпені. Яе ўдзельнікі ў чарговы раз пераканаліся, што азартныя гульні на дзяржаўным узроўні – справа няўдзячная. Хоць заснавальнікам латарэі выступіў Мінскі аблвыканкам, а арганізатарам – рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Беларуская латарэя», але гарантыі ад іх атрымаліся слабыя. Нават тыя, хто выйграў дробныя рэчы, не могуць атрымаць іх. У Доме гандлю ў Барысаве так званым шчаслівчыкам прапаноўваюць білеты наступнай латарэі «Дажынкі-2002», матывуючы гэтую замену адсутнасцю грошай у прызавым фондзе з-за нераспрададзеных білетаў.

## За чарніцы – «чарніла»

Ужо тройчы запар зменшаны закупачны кошт чарніц у Брэсцкай вобласці. Нарыхтоўшчыкі скарыстоўваюць ураджайны год і за адзін кілаграм ягад плацяць зараз 600 рублёў, хоць раней прапаноўвалі 1100 і 900 рублёў. З багатага на лясы Івацэвіцкага раёну чарніцы вывозяць Магілёўскі аблхарчгандаль. Па дамоўленасці з мясцовым райспажыўтаварыствам разлік за ягады вядзецца танным віном.

**Галіна БАРАВАЯ**

## Дзень незалежнай прэсы

Беларуская асацыяцыя журналістаў сумесна з Маладым Фронтам абвесцілі пра сумесную акцыю ў Дзень незалежнай прэсы. Па словах лідэра МФ Паўла Севярынца, абарона свабоды слова зараз як ніколі актуальная. «У час, калі некалькі дзесяткаў недзяржаўных беларускіх газет знаходзяцца пад ціскам улады, неабходна рэагаваць на кожны факт пераследу», – кажа Севярынец. Таму прадстаўнікі гэтай незарэгістраванай арганізацыі і актывісты Беларускай асацыяцыі журналістаў вырашылі ў суботу правесці акцыю на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску. Заўтра, **а 12 гадзіне**, насупраць рэзідэнцыі выстраіцца ланцуг людзей з незалежнымі выданнямі і партрэтамі рэпрэсаваных журналістаў. Да ўдзелу ў акцыі арганізатары заклікалі ўсіх, каму неабыякавы лёс беларускіх газет.

Яшчэ ніколі недзяржаўныя беларускія СМІ не знаходзіліся ў такой цяжкай сітуацыі. Праз несупынны ціск і цэнзуру парушаны асноватворныя нормы стасункаў улады і СМІ, газеты і самі журналісты зазнаюць крымінальны і адміністрацыйны пераслед. На думку Жанны Літвіной, «незалежныя медыі сёння – гэта апошні інстытут грамадскага кантролю над дзейнасцю ўлады, страціць які – значыць цалкам пазбавіць беларускае грамадства крыніцы альтэрнатыўнай інфармацыі». Выйсцем з цяперашняй сітуацыі можа стаць калектыўная стратэгія незалежных журналістаў і грамадзян у абарону сваіх правоў. Бо свабода слова – адна з найпершых і неабходных умоваў дэмакратычнага і адкрытага грамадства.

Адкрыццё Другога нацыянальнага каналу, на думку спн. Літвіной, ніяк не паспрыяе дэмакратызацыі інфармацыйнай прасторы краіны. «Тое, што палова акцый належыць дзяржаве, цалкам вызначае канцэпцыю новага тэлебачання, якое пры дадзеным збегу абставін ніяк не зможа стаць альтэрнатыўным», – лічыць старшыня БАЖу.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

## На складах – густа, у кішэнях – пуста

На паседжанні Магілёўскай асацыяцыі прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў заяўлена, што ў першым паўгоддзі запасы гатовай прадукцыі на складах прамысловых прадпрыемстваў вобласці дасягнулі 80,6 працэнта да сярэднямесячных аб'ёмаў вытворчасці.

Яшчэ адна праблема – рэзкае скарачэнне колькасці работнікаў, занятых у гаспадарцы. З пачатку году толькі на прамысловых прадпрыемствах вобласці скарочана 3,6 працэнта рабочых і спецыялістаў.

Паводле афіцыйных звестак, доўг па заработнай плаце ў суб'ектаў народнай гаспадаркі Магілёўскай вобласці перавышае 5 мільярдаў беларускіх рублёў – гэта 8,7 працэнта да месячнага фонду аплаты працы. На некаторых прамысловых прадпрыемствах заработная плата (7,8 мільёна рублёў) не выплачваецца са студзеня гэтага году. У калгасах і саўгасах вобласці існуе запазычанасць па зарплаце ў памеры 702,1 мільёна рублёў за работу ў красавіку.

**Канстанцін УВАРАЎ**

## Гасціннасць на «Славянскім базары»

На конкурсе маладых выканаўцаў на «Славянскім базары» беларуская спявачка Аляксандра Кірсанава заняла другое месца, а Наталля Падольская – трэцяе. Гран-пры і 10 тысяч даляраў звёз спявак Зікі з Югаславіі. Першае месца падзялілі ўкраінец Дзяніс Барканаў і Тамара Гачэчыладзе з Грузіі, другое месца напалам з адной з беларусак дасталося балгарыну Тодару Георгіеву, трэцяе – Алене Гуляевай з Расіі. Нагадаем, што нашы маладыя выканаўцы на «Славянскім базары» яшчэ ніколі не перамагалі.

НОВЫЯ ТЭХНАЛОГІІ



**Беларусаў не запужаць скарачэннем паставак паліва. Разумны беларус заўжды знойдзе выйсце**

## Беларускія мастакі і латвійскі бізнес

27 мастакоў з Беларусі і Латвіі ўдзельнічаюць у Міжнародным пленэры «120х100», які працягнецца да 4 жніўня ў латвійскім курортным пасёлку Юркална на беразе Балтыйскага мора. Пленэр арганізаваны латвійскім Адкрытым грамадскім фондам «Радзігарс» пры фінансавай падтрымцы акцыянерных таварыстваў «Калія Паркс» і «Вентспілскі гандлёвы порт».

Як паведаміла прэс-сакратар названых АТ Крысціна Кузьміна, беларускі бок на ім прадстаўляюць у асноўным чальцы Віцебскага рэгіянальнага аддзялення Беларускага саюзу мастакоў. Супрацоўніцтва мастакоў Беларусі і Латвіі пачалося ў 2001 годзе, калі ў Віцебску была арганізавана выстава работ маладых латвійскіх мастакоў. У тым жа годзе ў Рызе прайшла выстава беларускіх мастакоў, а ў красавіку гэтага году ў Віцебску адбылася ўжо другая выстава мастакоў Латвіі.

Гэтыя мерапрыемствы, паводле словаў прэс-сакратара, карысталіся вялікай цікавасцю публікі і СМІ. «Бізнес і культура, – адзначыла Крысціна Кузьміна, – знаходзяцца па-за палітыкай, гэта найлепшыя інструменты так званай народнай дыпламатыі. Таму свой уклад у развіццё культурных сувязей АТ «Калія Паркс» і «Вентспілскі гандлёвы порт» лічаць такім жа важным, як і працу ў галіне развіцця дзелавога супрацоўніцтва паміж Латвіяй і Беларуссю».

**Наталля КУЛАГІНА**

# Селектарная нарада

*Заканчэнне, пачатак на стар. 1*

**Было 30 000 камбайнаў, засталося ўдвая менш**

Экстрэмальная сітуацыя ў сельскай гаспадарцы паўтараецца з году ў год. І ніякія экстранныя меры, што агучваюцца на селектары, не вырашаюць праблемы ў цэлым. Агітацыя, пагрозы і адміністрацыйны ўціск падмяняюць сапраўдны гаспадарскі клопат пра тыя рычагі, што могуць павярнуць да лепшага ўсю ўборачную кампанію. Зараз няма людзей, абыякавых да грошай. Але які сэнс заклікаць механізатараў да кругласутачнай працы, калі з-за адсутнасці сродкаў на рамонт штодзённа прастойваюць 3,5 тысячы камбайнаў?

Тэмпы абнаўлення збожжаўборачнай тэхнікі ў Беларусі не паспяваюць за яе старэннем. За савецкім часам у гаспадарках налічвалася 30 тысяч камбайнаў. Сярэдняя нагрузка на адзін агрэгат складала 80 гектараў, што лічылася аптымальнай велічынёю. Зараз у краіне не нашмат больш за 14 тысяч камбайнаў, нагрузка на кожны павялічылася да дзвюх сотняў гектараў. Як лічыць дырэктар Беларускага навукова-даследчага інстытуту земляробства Міхаіл Кадыраў, нават калі на палях зараз застаецца 4 мільёны тон збожжа (пра 2 мільёны намалоту ўжо адрапартавалі), то агулам у амбарах будзе не больш як 5 мільёнаў тон. Калі збожжа саспее, прырода адводзіць 20 дзён на ўборку пшаніцы, 6 дзён – на авёс і 8 дзён – на ўсе іншыя каласавыя культуры. Пасля зерне пачынае высыпацца з коласа. Аб'ём стратаў ад гэтага, паводле неабвержных навуковых даследаванняў, штодзень (!) дасягае 1,2%.

Яшчэ адзін аўтарытэтны спецыяліст у галіне – галоўны інжынер Дэпартаменту механізацыі і тэхнічнага прагрэсу Мінсельгасхарчу Валерый Сіняк – сцвярджае, што большасць зернеўборачных камбайнаў у Беларусі апынулася за межамі амартызацыйнага тэрміну. Летась было набыта 1 268 новых машын, сёлета – усяго каля 400, прычым айчыннай зборкі. Камбайны замежнай вытворчасці складаюць адну шостую частку ва ўборачным парку. І хоць на іх лёгка намалочваецца па 1 300–1 500 тон збожжа, але лёс ураджаю вырашаюць старыя «Доны» і «Нівы». Нізкапрадукцыйных камбайнаў СК-5 «Ніва» застаецца яшчэ больш за 3,5 тысячы, і жніво на іх выглядае сапраўдным варварствам супраць чалавека і расліннасці. Пры высокай тэмпературы знадворку камбайнер задыхаецца ад спёкі ў кабіне і зарабляе хваробы, а не грошы, бо 20% зерня высыпаецца з малацільнага апарату камбайна праз дзіркі ў старым жалезе.

**Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**

# Шушкевіч думае пра неакамунізм

Самых розных дэфініцыяў таго ладу, што ўсталяваўся ў нашай краіне за Аляксандрам Лукашэнкам, агучваецца багата. Станіслаў Шушкевіч, напрыклад, тое, што дзеецца ў Беларусі, называе «неакамунізмам». Напісаная ім кніга, якая нядаўна пабачыла свет, гэтак і называецца: «Неакамунізм у Беларусі».

Кніга надрукавана накладам у тысячу асобнікаў у Смаленску пры падтрымцы амерыканскага Фонду Макартураў. Умовай фундатараў было і тое, каб даследаванне «Неакамунізм у Беларусі» выйшла па-руску. Праўда, Станіслаў Шушкевіч кажа, што шукае сродкі, каб выпусціць беларускамоўны варыянт кнігі. Што цікава: перад тым як выйсці кнігай, «Неакамунізм у Беларусі» быў надрукаваны ў адной з чыкагскіх газет.

Былы спікер Вярхоўнага Савету і лідэр Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады кажа, што гэта не столькі мемуары і не столькі строгая паліталагічная праца, колькі ягоны погляд на падзеі камуністычнай мінуўшчыны Беларусі і яе неакамуністычнай цяперышчыны. Шушкевіч разважае над «моцнымі і слабымі бакамі сілаў камуністычнага рэваншу» і над «важлівымі схемамі выцяснення неакамунізму з палітычнага працэсу Беларусі».

Вось што такое, паводле Шушкевіча, неакамунізм парусску: «мінімізацыя інстытуту прыватнай уласнасці, прапаганда прынцыпу роўнасці, а дакладней, усеагульнай роўнасці ў беднасці, абмежаванне індывідуальнай свабоды асобы праз палітыку сілавога ўціску правоў і свабодаў грамадзян, ваяўнічае антызаходніцтва, адмаўленне заходніх каштоўнасцяў». Адрозненні беларускай мадэлі неакамунізму ад класічнага савецкага камунізму ў тым, што ў сённяшняй Беларусі пануе не таталітарны, а аўтарытарны рэжым, эканамічна не самадастатковы і надзвычай залежны ад вонкавых палітычных і эканамічных фактараў.

Галоўнымі будаўнікамі неакамунізму ў Беларусі Шушкевіч называе Лукашэнку і Расію, для якой любыя сродкі добрыя: «дзеля пашырэння імперыі і забеспячэння геапалітычных інтарэсаў у іх вялікадзяржаўнай трактоўцы можна падтрымаць і чужы расійцам камуністычны рэжым у Беларусі, які груба парушае элементарныя правы грамадзян». Высновa, як прагнаць з Беларусі неакамунізм, тут, здаецца, відавочная.

**Кірэй МАНУЙЛА**

АФІЦЫЁЗ

# Брыфінг для незалежнай прэсы

***Прэс-сакратар прэзідэнта Наталля Пяткевіч днямі правяла брыфінг у Нацыянальным прэс-цэнтры. Нагодай для гутаркі з журналістамі стала «апаратыўная інфармацыя пра ход жніва». Прэс-сакратар пракаментавала заявы кіраўніка дзяржавы пра «надзвычайнае становішча» ў сувязі з уборкай ураджаю і адказала на пытанні журналістаў. Прадстаўнікоў дзяржаўнай прэсы і тэлебачання на брыфінг чамусьці не запрасілі.***

Нагадаем, што ў Віцебску, на адкрыцці «Славянскага базару», А.Лукашэнка назваў «цудам» тое, што ў нас сёлета ўрадзіў хлеб, які неабходна як мага хутчэй сабраць, і, каб «схапіць ураджай», у рэспубліцы абвяшчаецца «надзвычайнае становішча». Пра гэта ж распаўсюдзіла паведамленне і прэс-служба прэзідэнта.

Як патлумачыла Н. Пяткевіч, гаворка ідзе не пра «надзвычайнае становішча», якое абвяшчаецца згодна з адпаведным палажэннем Канстытуцыі. За словамі прэзідэнта стаіць заклік да надзвычайных захадаў па ўборцы ўраджаю, што звязана з «экстрэмальнымі ўмовамі надвор'я» ў краіне. Згладзіўшы рэзкія фармулёўкі главы дзяржавы, прэс-сакратар распавяла журналістам пра бягучыя навіны, прадставіла «апошнія весткі з палёў» і заўважыла, што пашкодзіць працы можа і дождж, і спякота. Сапраўды, лета гэтага году прынесла сельскай гаспадарцы некалькі сюрпрызаў – спякоту на ўсходзе рэспублікі, ураганы – у заходніх раёнах, а таксама адначаснае выспяванне збожжа.

Трэба адзначыць, што, адказваючы на пытанні, сп-ня Пяткевіч часцяком ігнаравала іх сутнасць, выкарыстоўваючы, мабыць, загадзя падрыхтаваныя адказы. Напрыклад, на пытанне карэспандэнта «Беларускага рынку», «ці будзе ўведзены «сухі закон» на час жніва?», сп-ня Пяткевіч параіла звярнуцца ў Палату прадстаўнікоў, бо законы распрацоўваюць і прымаюць там. А на пытанне пра стан здароўя прэзідэнта Наталля Уладзіміраўна адказала, што стан «*налицо*», што А.Лукашэнка вядзе актыўны лад жыцця і што стрэсы, звязаныя з уборкай ураджаю, на ягоным здароўі ніяк не адаб'юцца. Была закранутая і тэма абвешчанай раней сустрэчы з прэзідэнтам Расіі, ад якой чакаюць яснага адказу пра форму саюзных адносінаў Беларусі і Расіі.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

СКАНДАЛ

# Жырыноўскі абароніць гонар і годнасць беларускай улады

Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Анатоль Лябедзька гатовы выступіць сведкам падчас разгляду магчымага грамадзянскага іску старшыні Ліберальна-дэмакратычнай партыі (ЛДПР) Расіі Уладзіміра Жырыноўскага да кіраўніка «Саюзу правых сіл» Барыса Нямцова. Як паведаміў БелаПАНу А.Лябедзька, Б.Нямцоў нядаўна папрасіў яго пра гэта ў тэлефоннай размове.

У адным з інтэрв'ю расійскім журналістам У.Жырыноўскі заявіў пра намер падаць у суд іск у сувязі з выказваннямі Б.Нямцова наконт «бандыцкага рэжыму ў Беларусі». «Я даў даручэнне юрыдычнаму аддзелу фракцыі, і яны рыхтуюць іскавае даручэнне ў суд па месцы яго жыхарства, – сказаў лідэр ЛДПР. – Паглядзіце, што ён піша пра братнюю краіну, у якой з намі дамова аб стварэнні адзінай дзяржавы! Нават Захад гэтага сабе не дазваляе».

Ул. Жырыноўскі мае намер запатрабаваць кампенсацыю за «маральную шкоду ў межах 50 млн. рублёў на карысць прэзідэнта Беларусі і беларускага народа». «Грошы, калі я выйграю справу, перадамо праз беларускае пасольства ў Маскве. Няхай Лукашэнка сам вырашыць, што можна зрабіць на іх для народа», – сказаў ён.

А. Лябедзька не ўпэўнены ў тым, што лідэр ЛДПР давядзе справу да суду. «Жырыноўскі любіць тэатралізаваныя заявы, – сказаў кіраўнік АГП. – Але, у прынцыпе, я дам сваю згоду, што калі адбудзецца такі вельмі цікавы працэс паміж двума вядомымі расійскімі палітыкамі, які тычыцца сітуацыі ў Беларусі,... то я гатовы выступаць сведкам». У гэтым выпадку лідэр АГП збіраецца інфармаваць грамадскасць «пра грубыя парушэнні правоў чалавека ў Беларусі, у тым ліку знікненні апанентаў існуючага рэжыму».

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# Лукашэнка абрынуўся на АБСЕ

«Нам патрэбна перастаць кланяцца перад рознага кшталту еўрапейскімі структурамі, асабліва такімі, як АБСЕ», – заявіў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 24 ліпеня ў Мінску на брыфінгу па выніках сумеснага паседжання калегій міністэрстваў замежных справаў, эканомікі і гандлю.

Паводле словаў прэзідэнта, рэзалюцыя па Беларусі, прынятая на пачатку ліпеня на сесіі Парламенцкай асамблеі АБСЕ ў Берліне, «не можа не выклікаць дрыжыкаў». Нагадаем, што ў рэзалюцыі па Беларусі гаварылася пра гандаль зброяй і знікненне людзей.

«Мы адпаведна да гэтага ставімся, – заявіў беларускі прэзідэнт. – Проста несалідныя людзі сёння працуюць у гэтай арганізацыі, якую, дарэчы, мы фінансуем... Яны не ведаюць, чым яны павінны займацца». «Мы будзем будаваць узаемаадносіны толькі з захаваннем нашых інтарэсаў», – падкрэсліў Лукашэнка.

**Наталля КУЛАГІНА**

АКТУАЛЬНАЯ ЦЫТАТА

***Сёння цалкам можна пачаць міжпартыйны дыялог, адкрыты і публічны, які расставіць усе кропкі над «і», здыме ўсе маскі... і прывядзе да ліквідацыі дзвюх кампартыяў.***

«Рэспубліка»



ЮСТЫЦЫЯ

## *Ці закране амністыя прафесара Бандажэўскага?*

**Паводле новага закону пра амністыю, тэрмін пакарання былому рэктару Гомельскага медыцынскага інстытуту, прафесару Юрыю Бандажэўскаму можа быць скарочаны на 1 год.**

У камітэце выканання пакаранняў пры Міністэрстве ўнутраных спраў параілі пісьмова падаць запыт на імя начальніка Уладзіміра Коўчура адносна далейшага лёсу зняволенага прафесара Бандажэўскага. Адказ абяцалі даць дні праз тры. Аднак начальніца спецаддзелу камітэту Людміла Гладкіх вырашыла гэта нашмат хутчэй і гадзіны праз дзве паведаміла, што былы рэктар медінстытуту Юрый Бандажэўскі фармальна падпадае пад амністыю.

– У яго можа быць скарачэнне тэрміну на адзін год, – заявіла Людміла Міхайлаўна. – У першую чаргу на камісіі разглядацца асобы, якія будуць вызвалены ад далейшага адбыцця пакарання, а пасля ўжо тыя, у каго проста скарачаецца тэрмін. Бандажэўскі – такі ж асуджаны, як і ўсе. Шэсць месяцаў адводзіцца на выкананне закону пра амністыю. У гэты перыяд яму і будзе скарочаны тэрмін, калі няма парушэнняў.

Ужо больш за год сусветна вядомы навуковец, доктар медыцынскіх навук, прафесар Бандажэўскі адбывае пакаранне ў мінскай калоніі ўзмоцненага рэжыму, што на вуліцы Кальварыйскай. Яго асудзіла вайсковая калегія Вярхоўнага суду да 8 гадоў зняволення нібыта за хабарніцтва.

Парламенцкая камісія АБСЕ, якая нядаўна наведала прафесара Бандажэўскага ў турме, канстатавала, што ў яго зараз няма належных умоваў, каб працягваць навуковыя даследаванні. Між іншым, Юрый Бандажэўскі займаўся вывучэннем уздзеяння «малых дозаў» радыяцыі на арганізм чалавека.

Цікавай выглядае і такая акалічнасць. Гэтымі днямі ў Гомельскім дзяржаўным медінстытуце рэгіянальнае ўпраўленне Камітэту па арганізаванай злачыннасці і карупцыі зноўку правярае экзаменатараў з прычыны чутак пра хабарніцтва. І гэта нягледзячы на тое, што выяўлены, так бы мовіць, арганізатар таго хабарніцтва даўно знаходзіцца ў турме.


Фота IREX/ProMedia

**Анатоль ІВАНОЎСКІ**

# Паміж Кубай ды Панамай

## *У рэйтынгу чалавечага развіцця Беларусь на 56-ым месцы ў свеце*

**24 ліпеня Арганізацыя Аб'яднаных Нацыяў больш як у сотні краінаў свету прэзентавала чарговы Даклад аб развіцці чалавека. Сёлетняя справаздача пра тое, як маецца чалавецтва, была зроблена з акцэнтам на праблеме «паглыблення дэмакратыі ў раз'яднаным свеце». Беларускі журналістаў з тым, як выглядае ў гэтым кантэксце наша краіна, пазнаёміў кіраўнік прадстаўніцтва ААН у Беларусі Ніл Бунэ.**

Наша радзіма ў сусветным рэйтынгу па індэксе чалавечага развіцця сярод 173 дзяржаваў займае на сёння 56-ае месца і аднесена да групы краінаў з сярэднім узроўнем развіцця чалавечага патэнцыялу. Індэкс чалавечага развіцця (ІЧР) – гэта комплексны паказчык, асноўнымі складнікамі ў які ўваходзяць індэкс меркаванай працаздольнасці жыцця, індэкс адукацыі, які вылічваецца ад узроўню ахопу насельніцтва адукацыйнымі ўстановамі і ад узроўню пісьменнасці, а таксама валавы ўнутраны прадукт на душу насельніцтва. У 2001 годзе мы займалі 53-ці радок, у 2000 годзе – 57-ы. Калісьці ў 1990 годзе Беларусь была на 47-ым месцы. Вяртанне ў другую палову шостай дзесяткі абсалютна справядлівае, бо летась уздым у рэйтынгу адбыўся толькі дзякуючы таму, што ААН проста не мела статыстычных звестак па шэрагу краінаў (Куба, Антыгуа і Барбуда, Дамініканская рэспубліка і Сейшэльскія астравы), якія сталі вышэй за Беларусь. У новым дакладзе аб чалавечым развіцці яны прадстаўлены нанава, прычым наперадзе нашай краіны. Куба размясцілася якраз перад нашай краінай на 55-ым месцы, а вось акурат за намі, на 57-ым месцы, яшчэ адзін прадстаўнік таго ж рэгіёну – Панама.


У рэйтынгу чалавечага развіцця Куба абагнала Беларусь, заняўшы 55-е месца

Беларусь па-ранейшаму стаіць у гэтым спісе вышэй, чымсьці ўсе астатнія краіны СНД. Прыкладам, Расія, Казахстан і Украіна ў рэйтынгу па ІЧР займаюць адпаведна 60-ае, 79-ае і 80-ае месцы. Ад прыбалтаў мы адстаём, прычым штогод адрыў ад іх усё павялічваецца. Гэтак у Латвіі 53-яе месца, у Літве – 49-ае, у Эстоніі – наогул 42-ое. Ад іншых краінаў былога сацлагеру мы яшчэ далей: Польшча, напрыклад, ідзе 37-ай, Чэхія – 33-ай. Нездарма ж гэтыя краіны вось-вось уступяць у Еўрасаюз.

Першая дзесятка ў рэйтынгу па ІЧР выглядае такім чынам: Нарвегія, Швецыя, Канада, Бельгія, Аўстралія, ЗША, Ісландыя, Галандыя, Японія і Фінляндыя. Як бачым, у лідэрах – 6 еўрапейскіх краінаў, прычым палова з іх – скандынаўскія. У аўтсайдэрах перабываюць Сьера-Леонэ, Нігер, Бурундзі, Мазамбік, Буркіна-Фасо, Эфіопія.

Вядучую пазіцыю ў СНД паводле індэксу чалавечага развіцця Беларусь заняла дзякуючы паказчыку ВУП, па якім яна другая пасля Расіі. Паводле меркаванай працаздольнасці жыцця беларусы саступаюць грузінам, азербайджанцам ды ўзбекам, а індэкс адукацыі ў Беларусі такі самы, як ва Украіны, Расіі, Туркменістану і Арменіі. Праўда, наш ВУП на душу насельніцтва як слушны складнік індэксу чалавечага развіцця выклікае вялікія падазрэнні. Напрыклад, у нас на чалавека прыпадае 7 544 даляры з ВУП, а ва Украіне – 3 876 даляраў, і ў ААН кажуць, што гэткі разрыў не адпавядае эканамічнаму развіццю дзвюх краінаў. Высокі беларускі паказчык ВУП не адбіваецца на эканамічным дабрабыце.

А вось што гаворыцца ў Дакладзе аб развіцці чалавека пра ўзровень дэмакратыі ў Беларусі і пра якасць дзяржаўнага кіравання. У ААН лічаць, што «па паказчыку палітычнай стабільнасці, які характарызуе верагоднасць дэстабілізацыі становішча напружанасцю на этнічнай глебе, грамадскімі беспарадкамі, сацыяльнымі канфліктамі і іншымі прычынамі, Беларусь апярэджвае бальшыню астатніх краінаў СНД». Яна таксама стаіць наперадзе «па паказчыку правапарадку, які характарызуе ўзровень законапаслухмянасці насельніцтва і аб'ектыўнасці прымянення законаў». Паводле ААНаўскай справаздачы, у нас самы нізкі ў СНД паказчык карупцыі, які мае адлюстроўваць «узровень карумпаванасці асобаў, што займаюць высокія дзяржаўныя пасады, колькасці выпадкаў выплаты «нефармальных узнагароджанняў» чыноўнікам і тую ступень, у якой карупцыя перашкаджае дзелавой актыўнасці».

Разам з тым робіцца высноўа, што «ў сферы развіцця дэмакратыі паказчыкі Беларусі горшыя, чымсьці ў бальшыні краінаў СНД, а таксама большай часткі дзяржаваў з сярэднім узроўнем чалавечага развіцця». Па ступені ажыццяўлення свабоды слова, верабвызнання, сходаў і аб'яднанняў, а таксама прынцыпаў вяршэнства закону і правоў чалавека, Беларусь апярэджвае Кубу, Саудаўскую Аравію, Сірыю, Экватарыяльную Гвінею і Бірму, знаходзячыся на адным узроўні з Узбекістанам, Кітаем, Іранам, В'етнамам, Камбоджай ды Камерунам.

Аўтары дакладу аб чалавечым развіцці робяць выснову: толькі на першы погляд такі аналіз можа сведчыць пра тое, што «перавага аўтарытарных рэжымаў палягае ў іхнай здольнасці ствараць моцныя дзяржавы, здатныя прымаць цяжкія рашэнні на карысць людзей», бо, сапраўды, шмат якія краіны з нізкімі паказчыкамі дэмакратыі маюць адносна высокія паказчыкі правапарадку, палітычнай стабільнасці і нізкі ўзровень карупцыі. Але насамрэч краіны з больш дасканалай дэмакратыяй маюць яшчэ значна больш палітычную стабільнасць, вышэйшы правапарадак ды меншую карупцыю.

**Кірэй МАНУЙЛА**

# Раз – штраф, два – штраф

*У судзе Чыгуначнага раёна Гомелю скончылася чарговая дзея ў справе старшыні абласнога грамадскага аб'яднання «Грамадзянскія ініцыятывы» Віктара Карнеенкі. Ён паўторна аштрафаваны на 1 мільён рублёў. Канфіскаваны таксама 5 камп'ютэраў аб'яднання.*

Вырак маладога суддзі Аляксандра Хоміча ў адміністрацыйнай справе супраць Віктара Карнеенкі, па сутнасці, прадубляваў ранейшую пастанову суддзі Ганны Новік.

У студзені г.г. суддзя Новік таксама прызнавала Віктара Карнеенку вінаватым і штрафавала на мільён рублёў. Да таго ж сваю ўласную пастанову суддзя сфальшавала: адвольна прыпісала ўжо пасля вынясення выраку да ліку канфіскаваных 5 манітораў. За гэта яна атрымала вымову ад міністэрства юстыцыі.

Паводле скаргі грамадскага аб'яднання старшыня абласнога суду Аляксандр Федарцоў адмяніў пастанову Ганны Новік і накіраваў адміністрацыйную справу ў Чыгуначны суд на новы разгляд. Гэтым разам яна і патрапіла да суддзі Аляксандра Хоміча.

Хадайніцтва пра спыненне справы з прычыны сыходу тэрміну даўнасці ён адхіліў. Не задаволіў Хоміч і просьбы пра выклік у суд шэрагу сведкаў, у тым ліку і начальніка УКДБ Анатоля Цакуна. Як заявілі адказчык, менавіта ў лісце А. Цакуна пасля праверкі аднаго камп'ютэра «Ініцыятываў», у «памяці» якога не было ніякай інфармацыі пра выбары, нечаканая была зроблена высноўа пра выкарыстанне аргтэхнікі ў палітычных мэтах – для арганізацыі выбараў і незалежнага назірання.

На падставе ліста з УКДБ супрацоўнікі падатковай інспекцыі Чыгуначнага раёну і склалі пратакол пра парушэнне «Ініцыятывамі» дэкрэту Аляксандра Лукашэнкі № 8.

Віктар Карнеенка віны за сабою не прызнаў. Ён заявіў у судзе, што распачатая яшчэ летась справа – вынік самавольства ўпраўлення КДБ і ўцягнутых у яе прадстаўнікоў іншых дзяржаўных органаў. Гэта адбылося пасля таго, як «Ініцыятывы» звярнуліся ў гаспадарчы суд з іскам супраць упраўлення КДБ з прычыны гвалтоўнага завалодання аргтэхнікай грамадскага аб'яднання незадоўга да выбараў прэзідэнта.

Старшыня «Ініцыятываў» Карнеенка, шматлікія сведкі ва ўсіх судовых інстанцыях даказвалі: тэхніка сканфіскавана з грубымі парушэннямі заканадаўчых нормаў. Яе нават не апячаталі і не ідэнтыфікавалі сярод іншых сканфіскаваных камп'ютэраў.

Як сам прызнаўся ў судзе дазнаўца УКДБ Я. Сцепаненка, за гэта ён атрымаў службовае спагнанне.

Больш за тое, спецслужбы нейкім чынам знаходзілі інфармацыю пра выбары нават на няспраўных камп'ютэрах. Прынамсі, з дакументамі ў руках гэта пацвярджалі ў судзе прадстаўнікі «Грамадзянскіх ініцыятываў».

Аднак усё згаданае ніколькі не збянтэжыла суддзю Аляксандра Хоміча пры вынясенні пастановы.

«Грамадзянскія ініцыятывы» наважаны дамагацца адмены пастановы як беспадстаўнай.

**Анатоль ЛІПСКІ**

# Любоўная лодка разбілася аб трубу

## *Развод Масквы і Мінску суправаджаецца гучным скандалам*

Чуткі пра сустрэчу прэзідэнтаў Беларусі і Расіі, раней запланаваную нібыта на 25 ліпеня, не спраўдзіліся. Расійскія СМІ звязвалі з гэтай сустрэчай абмеркаванне новай і гучнай справы, выкліканай рашэннем Найвышэйшага гаспадарчага суду Беларусі, якое фактычна не прызнае расійскай дзяржаўнай уласнасці ў Беларусі. Гаспадарчы суд скасаваў рэгістрацыю прадпрыемства «Захад-Транснафтапрадукт» – аддзел расійскай кампаніі «Транснафтапрадукт» (ТНП). Кампанія, як гэта не дзіўна, кантралюе на беларускай тэрыторыі тысячу сто кіламетраў экспартных нафтаправодаў. ТНП узнікла пасля распаду СССР, стаўшы правапераемніцаю Дзяржнафтапрадукту. Расійскі бок надта незадаволены тымі перашкодамі, якія ўзніклі на шляху прыватызацыі найлепшых беларускіх прадпрыемстваў расійскімі фірмамі, якія скарысталі дэмагагічныя тэзісы аб «брацкім саюзе», каб замацавацца на беларускім рынку.

Гэтая праблематыка і будзе, відаць, дамінаваць на сустрэчы А.Лукашэнкі і У.Пуціна, якая цяпер прызначана на пачатак жніўня.

Артыкул, які мы перадрукоўваем з расійскай «Независимой газеты», паказальны ў адносінах успрыняцця Беларусі расійскай палітычнай грамадскасцю.

Паслязаўтра мае адбыцца запланаваная сустрэча Уладзіміра Пуціна з Аляксандрам Лукашэнкам. І, відаць, пройдзе яна ў абставінах, вельмі далёкіх ад поўнага ўзаемаразумення. Да ўсіх шматлікіх праблемаў у расійска-беларускіх стасунках дадалася яшчэ адна, і досыць сур'ёзная.

Скандал, які пачаўся днямі, абяцае стаць вельмі гучным. Думаць так прымушае апошняе рашэнне Найвышэйшага гаспадарчага суду Беларусі, якое дэ-факта азначае пачатак працэсу нацыяналізацыі расійскай дзяржаўнай уласнасці ў гэтай краіне. Мінск скасаваў рэгістрацыю прадпрыемства «Захад-Транснафтапрадукт», падраздзялення расійскай дзяржаўнай кампаніі «Транснафтапрадукт» (ТНП), якое кантралюе ў Беларусі больш за тысячу кіламетраў экспартных трубаправодаў. ТНП узнікла пасля распаду Саюзу, стаўшы правапераемніцаю Дзяржнафтапрадукту, і дзейнічае гэтая кампанія не толькі ў Беларусі, але і ў некаторых іншых краінах Садружнасці. Але толькі «дружалюбны» Мінск вырашыў, што гэтую сітуацыю можна перайграць у выгадны для сябе бок. Вырашыў не выпадкова: прысягаючы ў вечнай дружбе, беларускае кіраўніцтва, аднак, не спяшалася афарміць адпаведную дамову і юрыдычна так і не прызнала трубаправоды расійскай уласнасцю.

На думку кіраўніка Цэнтру стратэгічных даследаванняў Андрэя Піянткоўскага, ва ўсім гэтым дзівіцца можна толькі таму, што Аляксандру Лукашэнку ўдавалася цэлых дзесяць гадоў удала займацца «бартэрам», мяняючы «любоў» да Расіі на зусім канкрэтныя эканамічныя дывідэнды. Пры гэтым, лічыць эксперт, Лукашэнка віртуозна выкарыстоўваў рэшткавы «імперскі комплекс», уласцівы часткі расійскай палітычнай эліты, а сам «на справе ніколі і не думаў мяняць сваё становішча непадзельнага ўладара і дыктатара на статус падпарадкаванага Маскве шараговага кіраўніка звычайнага расійскага рэгіёну». І калі Уладзімір Пуцін паставіў рубам пытанне пра аб'яднанне, беларускі лідэр зразумеў, што «гульня скончана» і працягваць ранейшую палітыку няма сэнсу. Такім чынам, мяркуе палітолаг, Аляксандр Лукашэнка «стаў бацькам беларускай незалежнасці».




Вядомы аналітык прафесар Андрэй Мілашэнка перакананы, што рашэнне беларускай судовай інстанцыі стала адказам на заяву прэзідэнта Пуціна, які, па сутнасці, паказаў «лукашэнкавай Беларусі на яе сапраўднае месца». Дарэчы, гэтае рашэнне цалкам кладзецца ў парадыгму апошніх выказванняў Лукашэнкі пра ягонае імкненне да збліжэння з Еўропай і з *NATO.* Акрамя таго, сёння «беларускай эканоміцы трэба шмат грошай. Іх няма адкуль узяць – Расія не мае намеру па-ранейшаму плаціць за «клятвы вернасці», а Захад Аляксандру Рыгоравічу, натуральна, не схільны даваць веры. Застаецца адно – экспрапрыяцыя. І гэта тым лягчэй зрабіць, чым больш няпэўны статус мае расійскі ўласнік у Беларусі». Таму калі Масква даможацца таго, каб эмацыйныя заявы пра еднасць змяніліся дакладна прапісанымі дамоўленасцямі, што рэгулююць узаемаадносіны дзвюх незалежных краін, то з цягам часу такі стан рэчаў можа стаць добрай асновай для сапраўднага збліжэння нашых народаў. А самае галоўнае – паводле некаторых кулуарных звестак, пасля 11 верасня «неафіцыйныя апетыты беларускай эліты пачалі задавальняцца не поўнасцю», што, магчыма, вынікае з пэўнай пераарыентацыі некаторых патокаў, скажам так, нефармальнага транзіту. Гэта прымушае шукаць крыніцы новых даходаў, не лічачыся з сродкамі дасягнення мэты.

Галоўны аналітык інвестыцыйнай кампаніі «Праспект» Дзмітрый Дружынін таксама лічыць, што сітуацыя, якая ўзнікла цяпер, не павінна дзівіць. У Беларусі «пакуль няма фундаментальных элементаў рынкавай эканомікі, у прыватнасці, правы ўласніка практычна не абаронены». Таму і магчыма прыняцце рашэння, калі дзяржава без ніякіх перамоваў, кампенсацыяў і ўсяго астатняга, што рэгулюе маёмасныя дачыненні, валявым рашэннем ставіць уласніка перад фактам. У доўгатэрміновай перспектыве гэта азначае, што расійскім кампаніям, асабліва тым, што дзейнічаюць у стратэгічных галінах эканомікі, будзе цяжка працаваць у Беларусі. Што да нашага канкрэтнага выпадку, то, на думку Дзмітрыя Дружыніна, Мінск не стане абмяжоўваць перапампоўванне расійскіх энерганосьбітаў на Захад, але будзе імкнуцца атрымаць увесь даход ад гэтага працэсу. Што, у сваю чаргу, можа адмоўна адбіцца не толькі на інтарэсах спажыўцоў, але і пастаўшчыкоў: на еўрапейскім рынку нафты і газу можа скласціся становішча, калі расіянам давядзецца зніжаць кошты, каб утрымацца на сваіх пазіцыях. Таму рашэнне беларускіх уладаў грунтоўна падрывае канкурэнтаздольнасць расійскага бізнесу. У цэлым жа ўсё гэта сведчыць пра адсутнасць рэальнай эканамічнай інтэграцыі.

Дарэчы, эксперты аднадушныя ў думцы, што рашэнне беларускага боку можа азначаць пачатак шырокага наступу на расійскія інтарэсы ў Беларусі. У звязку з гэтым зразумела, чаму Масква пасля доўгіх ваганняў усё ж не рашылася весці новы газапровод праз Беларусь, а дамовілася з Украінай.

МЗС РФ ужо падрыхтаваў адпаведную ноту – ёсць падставы думаць, што досыць рашучую. Відаць, не застанецца ўбаку і Міндзяржмаёмасць. Але гэта зусім не азначае, што пытанне будзе вырашана. Наадварот, скандал хутчэй за ўсё атрымае гучны працяг.

**Армен ХАНБАБЯН**

ПАЗЫКІ

## Абгрунтуюць даўгі Украіны

**1–2 жніўня ў Мазыры плануецца правесці чарговае паседжанне міжурадавай беларуска-украінскай камісіі па гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве.**

На парадак дня галоўным пунктам выносіцца абмеркаванне праекту пагаднення аб урэгуляванні фінансавых стасункаў. Афіцыйны Мінск па-ранейшаму лічыць, што Украіна не разлічылася па старых даўгах. У беларускім урадзе зараз створана адмысловая рабочая група, якая павінна абгрунтаваць велічыню запазычанасці і ўзгадніць яе з украінскім бокам. У сувязі з беднасцю дзяржбюджэту вяртанне пазыкаў набывае важнае значэнне.

**Ірына САЗАНОВІЧ**

ЧУЖЫ СТАНДАРТ

## *Беларускую адукацыю – пад расійскі нагляд*

23 ліпеня ў Мінску пачалося паседжанне паўнамоцных прадстаўнікоў і экспертаў у галіне адукацыі з Беларусі, Арменіі, Грузіі, Казахстану, Кыргызстану, Расіі, Таджыкістану, Туркменістану, Украіны, а таксама прадстаўнікі Выканаўчага камітэту СНД і Міждзяржаўнага камітэту па распаўсюджванні ведаў і адукацыі дарослых.

Як паведаміў намеснік выканаўчага сакратара СНД Астанакул Мірзаеў, удзельнікам паседжання неабходна дапрацаваць праекты пяці дакументаў у сферы адукацыі. Сярод іх, у прыватнасці, дакументы **аб наданні Цэнтру адукацыйнай палітыкі Міністэрства адукацыі Расійскай Федэрацыі статусу базавай арганізацыі дзяржаў-удзельніц СНД па даследаваннях ў галіне адукацыйнай палітыкі і аб наданні Санкт-Пецярбургскаму дзяржаўнаму універсітэту статусу базавай арганізацыі дзяржаў-удзельніц СНД па падрыхтоўцы кадраў у галіне гуманітарных навук.**

Апрача таго, экспертам трэба будзе дапрацаваць праект установчай дамовы аб стварэнні Фонду падтрымкі супрацоўніцтва ў галіне адукацыі дзяржаў-удзельніц СНД.

**Вольга АСІПЕНКА**

# Здароўе не ў грашах

Аксана ЯНОЎСКАЯ

*Урадам зацверджаны дакумент, у якім вызначаны пералік бясплатных медыцынскіх паслуг. У той жа час кожная дзяржаўная медыцынская ўстанова абавязана аказваць платных паслуг не меней за 30% ад агульнага аб'ёму. Пацыенты турбуюцца, дзе ўзяць грошай, а сумленныя дактары не могуць вызначыць мяжу, за якой трэба спыніцца, дапамагаючы хвораму.*

| Паслугі | Дзяржаўныя клінікі | «ЛАДЭ» | «Экамедсервіс» |
|---|---|---|---|
| ЭКГ | 2 085 | 5 700 | 13 000 |
| УГД сэрца | 25 379 | 19 000 | 64 995 |
| УГД шчытападобнай залозы | 7 104 | 5 700 | 31 570 |
| УГД брушной поласці | 12 913 | 20 900 | 59 480 |
| УГД малога тазу | 14 493 | 15 200 | 42 715 |
| Кансультацыя доктара вышэйш. кат. | 3 900—10 000 | 14 250 | 11 100—31 450 |

*(ЭКГ – электракардыяграма, УГД – ультрагукавое даследаванне)*

## Кадры вырашаюць усё

У нашай краіне 42 тысячы дактароў, гэта даволі высокі паказчык у разліку на колькасць насельніцтва. Але колькі з гэтых дактароў высокапрафесійныя, сумленныя і неабыякавыя да чужога болю? Дзе яны працуюць? У дзяржаўнай ці прыватнай медыцыне?

Усе ў адзін голас кажуць, што добрыя спецыялісты працуюць у клініках, а ў паліклініках іх шукаць бессэнсоўна. Дактароў, што працуюць у клініках на сённяшні дзень, можна падзяліць на дзве катэгорыі. Адны працуюць на пацыента, другія – на сябе. Спачатку доктар, які, маючы працу ў прыватным медыцынскім цэнтры, ідзе дзяжурыць у звычайную клініку, выклікае захапленне. А потым даведваешся, што працуе ён там, каб набірацца вопыту на менш патрабавальных пацыентах, а самае галоўнае, каб шукаць пацыентаў-кліентаў у прыватны цэнтр. На самой справе прыватных медыцынскіх установаў, якія аказваюць сапраўды унікальныя паслугі, адзінкі. У медыцыне галоўнае ж не унікальнасць, а даказальнасць: вылечыў ці не. І тут адразу паўстае другое пытанне: сумленнасць рэкламы прыватных дактароў. Доктар-практык з усмешкай успрымае рэкламныя абвесткі, што нешта там вылечаць без аперацыі, аднымі «пілюлькамі, ды яшчэ прыемнымі на смак». А хто калі бачыў людзей, вылечаных па такой методыцы? Менавіта вылечаных, а не тых, каму яе выкарыстанне толькі адцягнула тэрмін аперацыі. Калі хвароба за-


Фота У.Шлапака

пушчана да такой ступені, што ёсць неабходнасць у хірургічнай аперацыі, дык толькі так і магчыма выратаваць хворага. І, на жаль, шырока разрэкламаваную малатраўматычную эндаскапічную аперацыю найчасцей таксама аказваецца позна рабіць.

З гэтага ж шэрагу пытанне пра сумленнасць канкрэтнага доктара. Напрыклад, пацыент, начытаўшыся розных газет і часопісаў на медыцынскую тэматыку, лічыць сябе вялікім спецыялістам і пачынае даводзіць доктару, што толькі вось гэтая маніпуляцыя і гэтыя лекі яго выратуюць. І доктар вырашае: «за вашы грошы – любы капрыз». Гэта паказчык таго, што доктар страціў і кваліфікацыю, і сумленне. Бо пры любой форме ўласнасці медычнай установы прынцып «не нашкодзь» павінен быць галоўным.

## Куды пайсці, каму плаціць?

Кошты на платныя паслугі дзяржаўных медыцынскіх установаў зацверджаны камітэтам па ахове здароўя. Таму ва ўсіх клініках яны аднолькавыя. А вось прыватнікі самі вызначаюць кошты, яны толькі павінны ўзгадняць іх усё з тым жа камітэтам. Рэнтабельнасць медыцынскіх паслуг прыватнікаў таксама абмежавана і не павінна перавышаць 30%. Але вось кошты ўсюды розныя. У дарагіх цэнтрах як толькі не тлумачаць высокія цэны. Маўляў, і абсталяванне найлепшае, і дактары найразумнейшыя. А на самой справе ў кошт «забіваецца» памер холу і марка тэлевізара, які там стаіць. У суседнім цэнтры дактары з такімі ж вучонымі ступенямі, абсталяванне такога ж узроўню, але кошты ніжэйшыя. Тут усё проста: кожны цэнтр працуе на сваю кліентуру, кожны чалавек можа вызначыць, куды дазваляе пайсці яго кішэня.

Прааналізаваўшы табліцу з коштамі паслуг, чалавек пачынае ламаць галаву: куды пайсці, каб не пераплаціць? І калі з прыватнымі медычнымі ўстановамі ўсё зразумела, то за што мы мусім плаціць у дзяржаўных? Згодна з дзяржаўным мінімальным сацыяльным стандартам у галіне аховы здароўя, уся дыягностыка павінна быць бясплатнай. На практыцы атрымоўваецца так, што пацыенту тлумачаць: вось вам было б добра зрабіць яшчэ тое і тое, каб дакладна паставіць дыягназ – але магчыма гэта толькі на платнай аснове. Ці яшчэ варыянт: хворы чалавек апынуўся ў стацыянары і, зразумела, хоча ведаць усё пра сваё здароўе. А яму кажуць: «У вас асноўны дыягназ вось такі. Згодна з алгарытмам лячэння, мы павінны вам прызначыць тое і тое. А калі вы хочаце нешта дадаткова абследаваць, то плаціце». І нельга сказаць, што доктар не разумее, што чалавечы арганізм трэба лячыць у комплексе, а не кожны орган асобна. Але доктара ставяць у такія умовы, што ён вымушаны ператварацца ў прадпрымальніка. Бо цяпер ад яго патрабуюць не толькі лячэння, але і выканання фінансавага плану. І доктар жыве ў страху – як выканаць план, але пры гэтым не дапусціць «перагібаў».

## Ці ёсць сапраўдны выбар?

На жаль, няма. Закон «Аб ахове здароўя» адабраў у пацыента права выбару лячэбнай установы і доктара. Гэта дрэнна як для медыкаў, так і для пацыентаў. Знаёмая сітуацыя: у бальніцы № *N* рэўматалогіяй загадвае, як той казаў, доктар ад Бога, а ў бальніцы № *W* – пляменніца нейкага высокага начальніка. І калі першы доктар выходжвае сваіх пацыентаў, то пляменніца накіроўвае на аперацыю. Зразумела, усе мараць лячыцца ў доктара з бальніцы № *N*. І каб добрая слава ў пацыентаў нешта значыла для чыноўнікаў ад медыцыны, то пляменніцы давялося б ці шукаць іншую працу, ці павышаць свой прафесійны ўзровень.

## Прагноз несуцяшальны

Можна смела прагназаваць, што дзяржаўныя медычныя ўстановы не здолеюць выканаць фінансавы план. А толькі з-за адсутнасці належнага сервісу і немагчымасці перавыхаваць дапаможны персанал. Хто захоча плаціць часам болей грошай *(глядзі табліцу)* за тое, каб натрапіць на хамства гардэробшчыка ці медрэгістратара, чыя пралетарская нянавісць да «платных» пацыентаў агульнавядома?

# Пільнасць актывізуе ператрус

*Да канца году ў шэрагах мытнікаў адбудзецца кадравая чыстка*

**Гродзенская рэгіянальная мытня, вобразна кажучы, нясе «залатыя яйкі». За паўгода яна дала бюджэту каля 38 мільярдаў рублёў. З гэтай сумы амаль 12 мільёнаў – амерыканскімі далярамі. На рахунак Дэпартаменту па гуманітарнай дапамозе пералічана 746 мільёнаў рублёў за «канфіскат».**

Старшыня Мытнага камітэту А.Шпілеўскі наведаў Гродзеншчыну, прыняў удзел ва ўрачыстым адкрыцці на мяжы з Літвой другой лініі памежнага пераходу. Прапускная магчымасць КПП «Каменны Лог» павялічваецца болей як у два разы. За суткі можна прапускаць цяпер за 2 тысячы машынаў. Гэта добрая падзея ўдвая была радаснай для тых мытнікаў, хто атрымаў для сябе новае месца працы. Начальнік папярэдзіў, што быць мытнікам – высокі гонар, бо ў ведамстве пачаўся працэс скарачэння. Ліквідацыі падлягаюць 8 мытняў, а на ўсіх іншых будзе пераўпарадкаваны штатны персанал. Шпілеўскі папярэдзіў: усе супрацоўнікі да канца гэтага году будуць спраўджаныя шляхам атэстацыі на прафесійную прыдатнасць і ўзровень інтэлекту! Ён таксама паведаміў, што вядомы прозвішчы мытнікаў, якія дапамагаюць кантрабандыстам. Але іх пакуль не чапаюць. Прозвішчы ён не назваў.

Дрэнныя навіны не маглі не выклікаць у шэрагах вартавых эканамічнай бяспекі пэўнай збянтэжанасці. Мытнікі актывізавалі сваю пільнасць. Прыкладам, калі за тыдзень да прыезду свайго начальніка яны склалі 45 пратаколаў аб парушэннях і канфіскавалі рознага дабра на 55 млн. рублёў, то ўжо на наступны тыдзень здабылі канфіскату амаль у тры з паловай разы болей – на 185 млн. рублёў. За тыдзень сканфіскавана адразу 8 аўтамабіляў, 6 з якіх – па несапраўдных дакументах спрабавалі ўвезці ў Беларусь. Цікава, што за паўгода сканфіскавана толькі 59 аўтамабіляў – у сярэднім па два ў тыдзень.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

ЗАРПЛАТА

# «Элегантны» дэкрэт

**Аляксандр Лукашэнка падпісаў дэкрэт №17 «Аб некаторых пытаннях рэгулявання аплаты працы работнікаў». З каментароў асобных СМІ вынікае, што гэты дэкрэт найперш абароніць сацыяльныя інтарэсы грамадзян, якія працуюць у камерцыйных структурах.**

Сярод вялікай колькасці падаткаў, што плацяць суб'екты гаспадарання, самыя вялікія грошы ідуць на выплаты ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва (ФСАН). Напрыклад, працаўнік атрымлівае 180 тысяч. Непасрэдна з гэтых грошай бухгалтэрыя вылічвае 1% у ФСАН. А вось наймальнік абавязаны заплаціць за гэтага працаўніка 35% зарплаты, або 63 тысячы рублёў. Зразумела, што наймальнікі па магчымасці знаходзяць іншыя формы аплаты працы. Напрыклад, тую ж дамову падраду з грамадзянінам. Не сакрэт, што большасць камерцыйных структур асноўны заробак выдае «чорным налам». Як прыйдзе час гэтым людзям афармляць пенсію, то ў іх будзе працоўны стаж, але калі ў даведках аб заробку напішуць афіцыйную суму, то можна будзе разлічваць адно на мінімальную пенсію. Толькі вельмі наіўныя людзі павераць, што з'яўленне гэтага дэкрэту выклікана клопатамі аб працаўніках камерцыйных структур.

Насамрэч грошай у пенсійным фондзе амаль няма, расце запазычанасць па выплатах пенсій. Трэба тэрмінова папаўняць казну. За кошт каго? Як заўжды, за кошт прадпрымальнікаў. Ды яшчэ так «элегантна»: клопат пра вашую старасць… Ну нельга ж заўсёды ў лоб: не дасі мільён на ўборку зерня, атрымаеш штрафаў на тры. Калі атрымліваецца, то можна і «элегантна».

Вялікае пытанне, ці стане больш грошай у пенсійным фондзе. А тое, што шмат фірмаў перавядзе свой бізнес у краіны-суседкі з мякчэйшым падатковым кліматам, можна прагназаваць смела.

**Паліна ЗЛОБІНА**

# Як прыйшла Незалежнасць?

*Успамінамі дзеляцца дэпутаты Вярхоўнага Савету XII склікання*

27 ліпеня адзначаецца 12-ая гадавіна Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, прынятай Вярхоўным Саветам XII склікання. У складзе таго Вярхоўнага Савету была вялікая фракцыя БНФ, якая ініцыявала разгляд гэтага дакументу. Напярэдадні свята мы вырашылі звярнуцца да ўдзельнікаў тых падзеяў з некалькімі пытаннямі:

***— Наколькі значны быў уплыў фракцыі БНФ на прыняцце 27 ліпеня 1990 году Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце?***

***— Калі ў ліпені 1990 году вы адстойвалі прыняцце Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце, як вам бачылася далейшае развіццё падзеяў у нашай краіне і наколькі ад гэтага адрозніваецца сённяшняя рэчаіснасць?***

***— Асабіста для вас 27 ліпеня – гэта...***

**Пётра САДОЎСКІ, дэпутат Вярхоўнага Савету XII склікання, сябра апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, старшыня Міжнароднай камісіі Вярхоўнага Савету, амбасадар у ФРГ з 1992 па 1995 год, сябра міжнароднай камісіі Партыі БНФ:**

Вызначальным і вырашальным. Нават нягледзячы на тое, што ў той час прыняцце Дэкларацыяў аб дзяржаўным суверэнітэце было агульнай тэндэнцыяй для ўсіх краінаў былога СССР, праца фракцыі БНФ вельмі моцна паўплывала на прыняцце гэтага дакументу ў Беларусі, бо наша рэспубліка заўжды вызначалася нестандартным развіццём падзеяў, і невядома, чым бы ўсё ўрэшце скончылася, калі б не было нашай фракцыі.

— Усё бачылася вельмі аптымістычным, у ружовых колерах, здавалася, што прыйшоў новы час. На жаль, атрымалася так, як мусіла атрымацца. Інакш не магло быць, бо ўсё павінна саспець – быць своечасовым. Трэба, каб прайшоў час і грамадства прыйшло да ўсведамлення неабходнасці сваёй незалежнай нацыянальнай дзяржавы.

— Вельмі рамантычныя ўспаміны! Плошча Незалежнасці, тысячы людзей, святло пражэктараў, музыка, спевы, адчуванне ўсеагульнага свята! Гэты дзень не стаў пераломным. Пералом у людской свядомасці адбыўся значна раней – яшчэ ў часе першага шляху на Курапаты (1988 год, лістапад), калі тысячы людзей супрацьстаялі дзяржаўнай машыне, а пасля былі шматтысячныя мітынгі на плошчах і стадыёнах.

**Галіна СЯМДЗЯНАВА, дэпутат Вярхоўнага Савету XII склікання, сябра апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, сябра камісіі па экалогіі Вярхоўнага Савету, намесніца старшыні Партыі БНФ:**

Фактычна фракцыя БНФ падрыхтавала праект і ініцыявала прыняцце Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце, таму я лічу, што гэта заслуга менавіта нашай фракцыі.

— 27 ліпеня 1990 году, калі нашая дэпутацкая дзейнасць доўжылася ўсяго некалькі месяцаў, мы лічылі, што ў выпадку прыняцця Дэкларацыі Беларусь стане сапраўды незалежнай дзяржавай. Мы намагаліся зрабіць усё, што ад нас залежыць, каб гэта спраўдзілася. У кожным разе, я верыла, што з нашым удзелам так яно і будзе, а Беларусь стане адной з еўрапейскіх краінаў. Тое, што бачым зараз, безумоўна, засмучае, бо ўлада нас штурхае то туды, то сюды, і мы ўсё больш аддаляемся ад Еўропы. Краіну цягнуць на Усход, а стыль кіравання робіцца ўсё больш падобны да азіяцкіх ды ўсходніх дыктатарскіх рэжымаў.

— 27 ліпеня для мяне стаў першым сапраўды цяжкім днём у Вярхоўным Савеце. Нам давялося пераконваць парламенцкую большасць, якая адмаўлялася прымаць апошнія палажэнні Дэкларацыі (менавіта тыя, што тычыліся незалежнасці). Тады мы, 80 чалавек з 345, выйшлі з залі, а тыя дэпутаты, што засталіся, напалоханыя, здолелі знайсці неабходную большасць з 173 чалавек і прынялі Дэкларацыю без нас. Калі ж мы выйшлі на плошчу пасля прыняцця Дэкларацыі і ўбачылі людзей, якія нас віталі, якія былі ўсцешаныя, было вельмі прыемна і радасна, што мы перамаглі.

**Мікола МАРКЕВІЧ, дэпутат Вярхоўнага Савету XII склікання, сябра апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, сакратар камісіі па экалогіі і рацыянальным выкарыстанні прыродных рэсурсаў Вярхоўнага Савету, сябра камісіі па СМІ і правах чалавека Вярхоўнага Савету, галоўны рэдактар газеты «Пагоня»:**

Уплыў быў проста вызначальны. У інтэлектуальным, ідэйным і творчым сэнсе Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце, якой пазней была нададзеная сіла канстытуцыйнага акту, фактычна была прадуктам працы фракцыі БНФ у Вярхоўным Савеце.

— Развіццё Беларусі ў 1990-1994 гадах ішло згодна з Дэкларацыяй. Фактычна фармавалася дзяржава, скіраваная на дабрабыт сваіх грамадзянаў, на навядзенне парадку ў самой сабе. На вялікі жаль, усе творчыя, станоўчыя, стваральныя працэсы былі фактычна нейтралізаваныя абраннем Лукашэнкі, які надзейна заблакаваў усе пазітыўныя імпульсы, што спрыялі развіццю незалежнасці і суверэнітэту. Тое, што мы сёння назіраем, ёсць антыподам той незалежнасці, якая мусіла быць згодна з Дэкларацыяй.

— Быў у маім жыцці перыяд, калі я лічыў, што 25 сакавіка – найгалоўнейшае свята. Але з цягам часу мне становіцца зразумелым: тое, што адбылося ў 1990 годзе, мае не толькі сімвалічнае, але і велізарнейшае практычнае значэнне і з'яўляецца велізарнейшай каштоўнасцю для беларускай нацыі. Для мяне гэта адно з найважнейшых святаў.

**Мікалай АКСАМІТ, дэпутат Вярхоўнага Савету XII склікання, сябра апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, сябра камісіі па адукацыі і культуры Вярхоўнага Савету, сябра Сойму Партыі БНФ:**

Фракцыя БНФ задавала тон, яна ініцыявала прыняцце Дэкларацыі і падрыхтавала яе праект.

— У 1990 годзе мары большасці былі ў асноўным пра канфедэрацыю, а тое, што нашая краіна атрымала дзяржаўную незалежнасць, было нечаканым, бо нават у думках так далёка мала хто заходзіў. Пазней мы выпрацавалі пакет законаў, накіраваных на дэмакратычнае развіццё дзяржавы. І трэба аддаць належнае большасці Вярхоўнага Савету, якая ўжо разумела неабходнасць дэмакратызацыі, нават камуністычная партыя падтрымала дэмакратычныя законы. Тады ніхто не чакаў вяртання да мінулага, нават у страшным сне ніхто не мог сабе такое ўявіць, але са з'яўленнем прэзідэнта ўсё перавярнулася да непазнавальнасці.

— Няма ніякіх сумненняў, што дзень, у які вярнулі суверэнітэт – вялікае свята. Але сённяшнія падзеі выклікаюць вялікую занепакоенасць. Лукашэнка, загнаўшы сябе ў кут, дзеля асабістага ўратавання гатовы пагадзіцца на прапанову РФ увайсці ў яе склад абласцямі – адно за гарантыі ўласнай бяспекі.

**Валянцін ГОЛУБЕЎ, дэпутат Вярхоўнага Савету XII склікання, сябра апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, сакратар міжнароднай камісіі Вярхоўнага Савету, сябра Сойму Партыі БНФ:**

Па-першае, праект Дэкларацыі напісалі самі сябры фракцыі БНФ, а 27 ліпеня – гэта проста апошні дзень, дзень, калі ўсё скончылася. Фракцыя выкарыстала нестандартны крок – выказаўшы пратэст супраць аднаго з унесеных для галасавання артыкулаў, у якім БССР быццам бы выступае за заключэнне новай саюзнай дамовы, – выйшла з залі паседжанняў. Астатнія парламентары вырашылі прагаласаваць за Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце ў адсутнасць фракцыі БНФ, зрабіўшы тое, што і было неабходна, – прыняўшы Дэкларацыю цалкам.

— У той час з усіх бакоў дзьмуў вецер пераменаў, нават з боку Масквы і Кіева. Мы адчувалі падтрымку з Вільні, Варшавы, Вашынгтону, Берліну – гэта быў час зменаў і ў нас, і ў Еўропе. Адчувалася, што вось-вось — і адбудуцца радыкальныя змены. Уявіце сабе: мы абіраліся дэпутатамі ў Вярхоўны Савет БССР, а тут не прайшло і году, як мы прымаем Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце, хаця СССР тады яшчэ існаваў. Час паказваў, што ў Беларусі былі вялікія перспектывы. На жаль, пасля 1994 году ўсё ідзе ў зваротным кірунку, але як гісторык магу адзначыць, што ніколі не бывае шляху толькі ў тупік. Гэта як маятнік – даходзіць да крайняй кропкі і абавязкова пойдзе назад. Хацелася б толькі, каб гэты «маятнік» менш пазбіваў добрых людзей.

— Ніхто не думаў, што менавіта 27 ліпеня будзе прынятая Дэкларацыя, што гэты дзень стане святочным, да яго ніхто не рыхтаваўся. Калі дэпутат Анатоль Вярцінскі прапанаваў зрабіць 27 ліпеня святочным днём – Днём Незалежнасці, фракцыя БНФ запратэставала, бо для нас Дзень Незалежнасці – 25 сакавіка. Праўда, вельмі хутка, ужо праз год, мы ўсведамілі, што 27 ліпеня — сапраўды вельмі значны дзень для новай Беларусі. Менавіта з-за вялікай значнасці гэтай даты для рэспублікі ворагі Беларусі знішчылі яе, змяніўшы на дату зусім не прыдатную.

**Лявонці ЗДАНЕВІЧ, дэпутат Вярхоўнага Савету XII склікання, сябра апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, сябра архітэктурна-будаўнічай камісіі Вярхоўнага Савету, архітэктар, сябра Партыі БНФ:**

Уплыў быў велізарны. У пэўным сэнсе нашая актыўнасць паспрыяла прыняццю Дэкларацыі, нават нягледзячы на парадаксальны факт, што фракцыя ў поўным складзе выйшла з залі паседжання.

— Усе былі рамантыкамі, у тым ліку і я, былі спадзяванні на хуткія змены. Можа, нашыя спадзяванні былі перабольшаныя і недастаткова рэалістычныя. Зараз мне здаецца, што варта было часцей шукаць кампраміс з большасцю, якая была тады.

— Складаныя, неадназначныя эмоцыі выклікае гэты дзень. З аднаго боку, гісторыя падаравала беларусам шанец жыць у сваёй незалежнай краіне, а з іншага – паказала ўсе цяжкасці. Трошкі адчуваю адказнасць, ёсць пачуццё, што не ўсё было зроблена як магло быць з нашага боку, з майго асабіста – можна было крыху інакш дзейнічаць. Шкада таксама, што народ, на які мы вельмі спадзяваліся, не адчуў і не зразумеў самакаштоўнасці незалежнага развіцця.



**Інтэрв'ю браў Вадзім ЛАБКОВІЧ**

# Ізраільскі пасол пакуе чамаданы

*Заканчэнне, пачатак на стар. 1*

Характэрна, што так званыя «рускія партыі» – «Ісраэль ба-Алія» і «Наш дом – Ізраіль» асабліва востра выступілі супраць закрыцця пасольства ў Мінску, заявіўшы, што гэта адмоўна адаб'ецца на працэсе рэпатрыяцыі. На думку іхніх кіраўнікоў, Ізраілю трэба не скарачаць, а пашыраць свае сувязі з Усходняй Еўропай. А Беларусь – «вельмі важная дзяржава з багатай габрэйскай гісторыяй». Да гэтых цвярджэнняў можна было б дадаць і словы міністра замежных справаў Беларусі Міхаіла Хвастова пра тое, што Ізраіль клапоціць беларускія ўлады і наяўнасцю 140 тысяч суайчыннікаў, якія з'ехалі ў розныя гады з беларускай радзімы на сваю гістарычную. Праўда, не зусім застаецца ясным, ці то гэтыя суайчыннікі для афіцыйнага Мінску былыя, ці то сапраўдныя. (Паводле беларускага Закону аб грамадзянстве, мець адначасна два грамадзянствы забаронена.) Тым не менш падчас сустрэчы з імі на зямлі абяцанай, арганізаванай з нагоды паломніцтва ў 2000 годзе кіраўнікоў дзяржаваў і ўрадаў у Ізраіль, Лукашэнка заклікаў ахвотных вярнуцца ў Беларусь, дзе, паводле ягоных словаў, зямлі на ўсіх хопіць. Некаторыя ўспрынялі чарговы пасаж беларускага кіраўніка з гумарам. Маўляў, пра якую зямлю казаў Лукашэнка – ці то гэта два метры, ці то права на арэнду?

Актыўнасць цяперашняга пасла Беларусі ў Ізраілі, адстаўнога генерала КДБ Генадзя Лавіцкага, які патрапіў за сем гадоў сваёй працы ўсталяваць добрыя стасункі з суайчыннікамі – грамадзянамі Ізраілю, асабліва ветэранамі вайны, нібыта сведчыць, што пра іх не забываюць. Але, як шмат хто мяркуе, усе намаганні пасла па наладжванні нармальных двухбаковых дачыненняў звяліся на нуль з-за дзіўнай цягі беларускага кіраўніка да дружбы з «прыязнымі» Ізраілю рэжымамі, якія пануюць у Сірыі, Іране, Лівіі і Іраку. Разнастайнае супрацоўніцтва Беларусі з імі застаецца для сусветнай супольнасці трывожнай тэмай. Не могуць да такой дружбы ставіцца спакойна і ў ізраільскім грамадстве, у ягоным істэблішменце. Апошнім часам у ізраільскім друку з'явілася, напрыклад, інфармацыя, што Беларусь забяспечвае Ірак узбраеннямі і запчасткамі да ваеннай тэхнікі праз Сірыю, якая не знаходзіцца пад санкцыямі ААН. З Мінску ваенна-транспартныя самалёты лятуць у Дамаск, а потым сушаю груз дастаўляецца ў Багдад. Не маглі не заўважыць у Ерусаліме, дый у іншых сталіцах, некаторых акалічнасцяў, звязаных з апошнім візітам у Мінск іракскай дэлегацыі на чале з віцэ-прэм'ерам. У беларускіх дзяржаўных СМІ чамусьці змаўчалі, што той віцэ-прэм'ер мае яшчэ і пасаду міністра ваеннай прамысловасці. Пра гэта нагадалі некаторыя замежныя СМІ. Відаць, у беларускага знешнепалітычнага ведамства, якое старанна асвятляла гэты візіт, былі ўсё ж нейкія прычыны, каб абысці маўчаннем міністэрскі тытул чарговага госця з Багдаду. Магчыма, гэта таксама прычынілася да таго, што Беларусь трапіла ў «спіс Перэса». Найверагодней, калі ізраільскі пасол з'едзе з Мінску, то і беларускае пасольства ў Тэль-Авіве будзе вымушана панізіць свой статус. Наўрад ці ў Мінску дадумаюцца яго зусім зачыніць. Але ўзровень прадстаўніцтва відавочна стане ненармальным. Каму гэта будзе выгадна, адназначна сказаць цяжка. Як і знайсці здаровы толк у той палітыцы, у прывязнасці на Блізкім Усходзе, якую працягвае паноўны ў Беларусі рэжым.

Кажучы пра стан беларуска-ізраільскіх стасункаў, дзеля справядлівасці трэба адзначыць не толькі пазіцыю Мінску. З таго часу, як ізраільскае пасольства ачоліў цяперашні пасол, для беларускіх журналістаў, асабліва з недзяржаўных СМІ, сувязь з пасольствам, такая неабходная для прафесійнай дзейнасці абодвух бакоў, практычна перапынілася.

Мала хто ўвогуле можа ўспомніць, калі спадар пасол асабіста ладзіў прэс-канферэнцыі, аналагічныя тым, якія не баяцца праводзіць ягоныя калегі па дыпламатычным корпусе, акрэдытаваныя ў Мінску. А такія сустрэчы ізраільскага пасла з журналістамі маглі б стаць важнай і цікавай крыніцай інфармацыі. Асабліва ў святле вайны, якая ідзе ў ягонай краіне. На агульную думку, на інфармацыйным полі Ізраіль прайграе супрацьстаянне палесцінскаму экстрэмізму. Так што самаізаляцыя ізраільскага пасла ў Мінску выглядае больш чым дзіўнаю.

Ранейшыя ізраільскія паслы ў Мінску, якія, дарэчы, валодалі расійскай моваю і імкнуліся авалодаць беларускай, досыць актыўна сустракаліся з журналістамі, прадстаўнікамі недзяржаўных і дзяржаўных арганізацыяў рознага кшталту. На жаль, у цяперашняга кіраўніка дыпламатычнай місіі Ізраіля такой цягі да сумоўя не назіраецца. І ягоную адсутнасць, у выпадку закрыцця пасольства ў Мінску, наўрад ці хто заўважыць.



**Зіма шалее ў другім паўшар'і – пакуль мы знемагаем ад спякоты, у Паўднёвай Афрыцы гарады абвяшчаюць зонаю бедства з-за маразоў, а бензавозы замярзаюць і не могуць да іх правацца.**

ПРАЕКТЫ

## Калінінград і Беларусь мяркуюць звязаць тунелем

Паміж Пецярбургам і Калінінградам наладжваюцца паромныя зносіны, а літоўскі прафесар прапануе злучыць Беларусь і Калінінградскую вобласць тунелем

Намеснік паўнамоцнага прадстаўніка прэзідэнта Расіі ў Паўночна-заходняй акрузе Андрэй Сцяпанаў паведаміў, што да 1 кастрычніка будзе пракладзена першая нітка паромных зносінаў Пецярбург–Калінінград і завершаны ўсе выпрабавальныя мерапрыемствы. Паводле словаў Сцяпанава, Літва не супраць льготнага транзіту расійскіх грузаў і льготнага праезду праз сваю тэрыторыю.

Тым часам літоўскі ж прафесар Альгімантас Амбразявічус заявіў, што калінінградская праблема «вырашаецца проста». Як паведамляе мясцовая прэса, ён прапануе пракапаць 70-кіламетровы тунэль, які найкарацейшым шляхам злучыў бы Беларусь з Калінінградскай вобласцю. Адзінае, у чым прафесар бачыць магчымую праблему, – нязгода Польшчы, пад чыёй тэрыторыяй гэты тунэль мае прайсці. Работы можна весці адкрытым спосабам. Паколькі Расія мае багаты досвед будаўніцтва метро, вялікіх тэхнічных праблемаў узнікнуць не павінна. Свае меркаванні прафесар ужо накіраваў спецпрадстаўніку расійскага прэзідэнта Рагозіну, але хацеў бы паінфармаваць і асабіста Пуціна.

Прафесар Амбразявічус вядзе курс транспартных сістэмаў у Літоўскай ваеннай акадэміі. У Віленскім тэхнічным універсітэце імя Гедыміна ён на англійскай мове чытае курс лекцыяў па энергетыцы транспарту для студэнтаў-замежнікаў.

КРЫМІНАЛ

## На караблі знойдзена найбуйнейшая партыя канапель у гісторыі

Учора супрацоўнікі паліцыі і мытні абшукалі карабель, які прышвартаваўся ў порце Дубліна, і знайшлі партыю канапель, вага якіх, паводле папярэдняй ацэнкі, складае ад чатырох да шасці тонаў.

На вуліцы такую колькасць гэтага наркотыку можна прадаць за 10 млн. фунтаў стэрлінгаў. Каноплі ляжалі ў кантэйнеры, схаваным за бетоннымі садовымі канструкцыямі. Карабель прыбыў з Таіланду праз Сінгапур і Антверпен.

Паводле словаў паліцыі, гэта найбольшая партыя канапель, канфіскаваная ірландскімі праваахоўнымі органамі. У графстве Керы арыштаваны чалавек, які падазраецца ў саўдзеле ў гэтым злачынстве. Мяркуецца, што ён – грамадзянін Нідэрландаў.

У выхадныя ў Ірландыі было праведзена некалькі паспяховых аперацыяў у рамках барацьбы з транспартаваннем наркотыкаў. У нядзелю мытня канфіскавала ў аэрапорце Дубліна чатыры кілаграмы какаіну коштам 321 000 фунтаў стэрлінгаў. У суботу паліцыя правяла вобшук у адным з дамоў ірландскай сталіцы і знайшла партыю гераіну коштам 400 000 фунтаў. У ходзе кожнай з аперацыяў было арыштавана па адным чалавеку.

**Daily Telegraph**

# «Несмяротная» зброя

Армія ЗША амаль перастала страляць. Сёння салдатам у асноўным даводзіцца сачыць за парадкам і разганяць дэманстрацыі. Менш за ўсё ім хочацца трапляць у сітуацыі, якія патрабуюць ужывання зброі. Якраз таму Пентагон укладае ўсё болей сродкаў у даследчыя працы па стварэнні зброі, якая спрычыняе шок, ловіць у сеткі, выклікае ваніты – усё што заўгодна, толькі не забівае.

Праграма па стварэнні «несмяротнае» зброі ўжо наклікала на сябе крытыку.

### Накіраваная энергія як зброя

Уявіце сабе нешта сярэдняе паміж мікрахвалевай печкай і бластэрам з навукова-фантастычнага фільму: шчыльны, сфакусаваны энергетычны прамень, які імгненна награвае цэль на вялікай адлегласці. Промень накіраванай энергіі не спальвае цела, але стварае адчуванне нясцерпнага болю. Даследчая лабараторыя ВПС ужо выдаткавала 40 млн. даляраў на стварэнне моцнай энергетычнай зброі. У 2009 годзе яе мяркуюць перадаць на ўзбраенне арміі.

### Павуцінне і сеткі

Фірма *Foster-Miller* з Уолтхэму, Масачусетс, стварыла «Вебшот» – сетку з кеўлара (наймацнейшае сінтэтычнае валакно) шырынёю ў тры метры. «Вебшот» запакоўваецца ў патрон, якім можна страляць з адмысловай стрэльбы. Ён дазваляе лавіць у сетку цэлі, размешчаныя на адлегласці да 10 метраў. Буйнейшыя аб'екты ловяцца ў большыя сеткі. Пераносны эластычны бар'ер, распрацаваны кампаніяй *General Dynamics* для Пентагону – гэта тугое, эластычнае павуцінне, якое ўзлятае з зямлі і імгненна блакуе дарогу. Яно здатна спыніць аўтамабіль вагою ў 3,5 тоны, які рухаецца з хуткасцю 70 км у гадзіну, і абматацца вакол яго так, каб з машыны нельга было выбрацца.



### Сапраўдныя прамянёвыя стрэльбы

Каліфарнійская кампанія *Mission Research Corp.* працуе над стварэннем пульсацыйнага энергетычнага снараду (*PEP*), які так хутка награвае паверхневую вільгаць, што яна выбухае з гучным воплескам, пакідаючы па сабе ўспышку святла. Уявіце сабе прыладу памерам з кішэнны ліхтарык, якая перадае магутны электрычны зарад праз промень ультрафіялетавага святла. Святлом такога ліхтарыка можна паралізаваць чалавека на адлегласці 2 км. Гэтую прыладу цяпер распрацоўвае кампанія *HSV Technologies* з Сан-Дыега.

### Наркотыкі-бактэрыі...

Даследчыкі хочуць стварыць бактэрыю, якая з'ядае асфальт, паліва і браню. Тое, што ЗША вынайдуць сёння, заўтра пачнуць ужываць іншыя дзяржавы, у тым ліку тэрарыстычныя. Наколькі дорага абыдзецца нам чароўная гумовая куля?

**Time**

# Смерць у абдымках імператрыцы

## Містыка кахання каранаваных асобаў

Канстанцін ТАРАСАЎ

**А**пошні польскі кароль і вялікі князь літоўскі Станіслаў Аўгуст Панятоўскі атрымаў трон Рэчы Паспалітай дзякуючы клопату Кацярыны II. Драматычны ўплыў іхніх сардэчных адносінаў на гісторыю Польшчы, Беларусі, Літвы ніколі не будзе выкраслены з гісторыі.

### Любоўны раман

У Санкт-Пецярбургу Станіслаў Панятоўскі з'явіўся ў 1755 годзе ў свіце англійскага пасла Чарльза Вільямса, які займаўся дыпламатычным выхаваннем маладога чалавека на просьбу канцлера Рэчы Паспалітай Міхала Чартарыйскага.

Шукаючы магчымасцяў уплыву пры двары імператрыцы Лізаветы Пятроўны, Вільямс звярнуў увагу на Кацярыну – жонку афіцыйнага наступніка трона, будучага Пятра III. Яна ж, у сваю чаргу, надзвычай зацікавілася прыгожым маладзёнам з ягонае світы. Панятоўскаму было дваццаць тры гады. Прывабная знешнасць, вытанчаныя манеры, добрая адукацыя і прыкметная легкадумнасць зачаравалі вялікую княгіню. Агульным у іх было хіба толькі тое, што абое паходзілі з малавядомых небагатых фамілій, якія не мелі ніякіх падставаў прэтэндаваць на найвышэйшую ўладу.

Кацярына II, у сапраўднасці – Соф'я-Фрэдэрыка-Амалія прынцэса Ангальт-Цэрбсцкая, нарадзілася ў 1729 годзе ў Шчэціне. У веку 14 гадоў яна атрымала запрашэнне ад імператрыцы Лізаветы прыехаць у Пецярбург. А праз два гады ўзяла шлюб з вялікім князем Пятром, унукам Пятра Вялікага і Карла XII, у сапраўднасці Карлам-Петэрам-Ульрыкам, сынам герцага Галштэйн-Гаторпскага. Ён выхоўваўся як пратэстант, каб заняць шведскі трон. Аднак ягоная цётка Лізавета вырашыла пасадзіць яго пасля сябе на трон расійскі. Кацярына і Петэр-Ульрык з першага дня былі абыякавыя адзін да аднаго і кампенсавалі холад сямейных стасункаў пабочнымі захапленнямі.

Станіслаў Панятоўскі нарадзіўся ў 1732 годзе ў Воўчыне, радавым маёнтку недалёка ад Брэста. Ягоны бацька быў вайсковы палкоўнік, але здолеў атрымаць пасаду кракаўскага кашталяна і разумна ажаніцца. Маці паходзіла з роду Чартарыйскіх, што забяспечыла ёй вялікі пасаг, а яе сыну – падтрымку ўплывовых сваякоў.

Літаральна з самага пачатку рамана Панятоўскі паставіў сябе ў становішча слабейшага партнёра, саступіўшы ініцыятыву Кацярыне. Калі верыць яго занатаваным пазней прызнанням, ён уяўляў для свайго ўзросту вельмі рэдкі выпадак: *«Спачатку суворае выхаванне не дазволіла мне блізкіх адносінаў з жанчынамі,* – пісаў Панятоўскі, – *потым ганарлівае жаданне ўтрымацца ў так званым вышэйшым свеце, асабліва ў Парыжы, ахоўвала мяне ў маіх падарожжах, і цэлая сетка дзіўных дробных акалічнасцяў у маіх спробах пачаць любоўныя сувязі ў іншых краінах і нават у Расіі нібыта спецыяльна захавала мяне некранутым для той, якая з таго часу запанавала над маім лёсам».*

Відаць, Кацярыне давялося сыграць ролю спакусніцы. Яна была ўзнагароджана за гэта ўдзячнай характарыстыкай свайго каханка: *«Ёй было 26 гадоў, яна толькі нядаўна перанесла першыя роды... Брунетка, яна была асляпляльная, бровы ў яе былі чорныя і вельмі даўгія, нос грэцкі класічны, дзіўнага харaства рукі і ногі, тонкая талія, рост хутчэй высокі, паходка вельмі лёгкая і ў той жа час шляхетная, прыемны тэмбр голасу і смех такі ж вясёлы, як і характар, які дазваляў ёй з аднолькавай лёгкасцю пераходзіць ад самых гарэзлівых гульняў да матэматычных табліцаў, якія не пужалі яе сваім зместам».*



Пры ўсёй свабодзе паводзінаў, дазволенай пры двары Лізаветы, існавалі ўсё ж пэўныя правілы прыстойнасці, якія сталая імператрыца прымушала захоўваць. Раман Кацярыны і Панятоўскага не атрымаў гучнай вядомасці, але калі праз год англійскаму паслу давялося пакінуць Пецярбург, то ўслед мусіў выехаць і Панятоўскі. Але праз тры месяцы ён вярнуўся ўжо ў афіцыйным статусе міністра польскага караля Аўгуста II, што дазваляла наведваць любы двор ці салон. Паралельна з любоўным раманам, які займаў другую палову сутак, Панятоўскі светлы час прысвячаў дзейнасці на карысць сваіх стрыяў Чартарыйскіх і на шкоду каралю, якога Чартарыйскія не шанавалі. З Дрэздэна, дзе жыў кароль, каралеўскаму паслу прыйшоў сакрэтны загад аб адкліканні Панятоўскага на радзіму. Каб не расставацца з Кацярынай, закаханы вырашыў выдаваць сябе за хворага і такім чынам з месяца на месяц адкладаў развітальны прыём. І сам лёс пайшоў каханкам насустрач. У гэты час працягваліся баявыя дзеянні Сямігадовай вайны, і 5 лістапада 1757 году ў бітве пры Росбаху французы былі ўшчэнт разбіты войскам прускага караля Фрыдрыха Вялікага. Пераможца мог прадыктаваць саксонскаму курфюрсту, які быў выбарным польскім каралём, любыя ўмовы падпарадкавання, і саксонскі двор апынуўся ў поўнай залежнасці ад адзінага баяздольнага праціўніка Фрыдрыха – Расіі.

Кацярына імгненна ацаніла гэтую змену палітычнай сітуацыі і праз канцлера Бястужава прымусіла саксонскага пасла пакінуць Панятоўскага ў спакоі. Здавалася, што цяпер нішто не зможа разлучыць закаханых, калі яны толькі самі не вырашаць расстацца. Тым болей што муж Кацярыны запаліўся любоўю да новай каханкі – Лізаветы Варанцовай. Аднак улетку 1758 году выпадак сутыкнуў мужа з жончыным каханкам. Панятоўскі, выходзячы ранкам ад Кацярыны з араніенбаўмскага палаца, быў арыштаваны пікетам аховы Пятра. Яго прывялі да вялікага князя. Пётр патрабаваў, каб начны візіцёр сказаў яму праўду. Панятоўскі не ведаў, як лепш трымацца, і маўчаў. Пётр узлаваўся; Панятоўскі мог дорага заплаціць за сваю неасцярожнасць. Кацярына, адчуўшы небяспеку, паабяцала Лізавеце Варанцовай нейкія паслугі. У адказ Варанцова ў гэты ж дзень са згоды свайго каханка ўпусціла Панятоўскага ў пакой Пятра. Панятоўскі распачаў гутарку кампліментамі ваенным ведам і здольнасцям вялікага князя, які марыў стаць падобным да Фрыдрыха Вялікага. Задаволены Пётр зычліва адказаў: «А цяпер, калі мы сябры, тут не хапае яшчэ некага». І, як успамінаў Панятоўскі, «з гэтымі словамі ён ідзе ў пакой сваёй жонкі, выцягвае яе з ложку, дазваляе толькі накінуць капот і ў такім выглядзе прыводзіць яе і кажа, паказваючы на мяне: «Вось ён, спадзяюся, што цяпер усе задаволеныя».

Кампанія рассталася ў чатыры гадзіны раніцы. Сяброўская сустрэча паўтарылася наступным днём, і гэтак шчаслівa абедзве пары правялі некалькі тыдняў. «Я часта бываў у Араніенбаўме, – дзяліўся пазней Панятоўскі. – Я прыязджаў увечары, падымаўся патаемнымі сходамі ў пакой вялікай княгіні, там ужо сядзелі вялікі князь і яго каханка, мы вячэралі разам, потым вялікі князь прыводзіў сваю каханку і казаў нам: «Цяпер, дзеці, я вам болей не патрэбны». Я заставаўся, колькі хацеў».

Чуткі пра такія дзіўныя заняткі мужа і жонкі, якія прэтэндавалі сесці на расійскі трон, разышліся па двары, узнік скандал. Імператрыца Лізавета правяла з Кацярынай дзве жорсткія начныя размовы, і Панятоўскі быў вымушаны хутка пакінуць і каханую, і Санкт-Пецярбург.

### Атрыманне каронаў

Смерць Лізаветы Пятроўны 5 студзеня 1762 году прывяла на трон Пятра III. Не самыя лепшыя і раней адносіны мужа і жонкі цяпер, пры атрыманні Пятром поўнай улады, пагражалі Кацярыне рэальнымі няшчасцямі – пакараннем за шматлікія здрады, якое магло займець форму зняволення ў манастыры з адпаведным разводам і разбурэннем усіх планаў на будучыню, якія склаліся ў яе за гады жыцця ў Пецярбургу. Яна добра разумела, які шанец падаравала ёй, дробнай нямецкай прынцэсе, Лізавета. Скарыстаўшы непапулярнае ў народзе і войску жаданне новага імператара ваяваць з Даніяй за сваю родную Галштынію, Кацярына вырашыла сыграць ва-банк. Яна арганізуе змову гвардзейскіх афіцэраў, і браты Арловы дамагаюцца ад Пятра III выračыся трону. Праз восем дзён імператар быў задушаны ў сваім палацы ў Ропшыне Аляксеем Арловым, Фёдарам Барацінскім і Міхаілам Баскакавым, што было названа смерцю ад сардэчнага прыступу. Кацярына заняла трон.

У 1763 годзе памёр кароль Рэчы Паспалітай Аўгуст III. Пачалася барацьба за польскую карону паміж прэтэндэнтамі – ваяводам Патоцкім, гетманам кaронным Браніцкім і стольнікам літоўскім Панятоўскім. Апошняга падтрымоўвалі Чартарыйскія і Расійская імперыя, – калі гэтак назваць Кацярыну, з увагі на яе магчымасці. Ведаючы мяккі характар свайго былога каханка і нежаданне ягоных стрыяў Чартарыйскіх канфліктаваць з Расіяй, яна вырашыла паставіць каралём Панятоўскага.

У лісце да свайго пасла ў Варшаве Кацярына з непрыхаваным цынізмам загадвае падтрымліваць кандыдатуру Панятоўскага, бо *«ён у часе свайго знаходжання ў Пецярбургу зрабіў сваёй радзіме болей паслугаў, чым які-небудзь з міністраў Рэчы Паспалітай!»* На дадатак яна заплаціла ўсе даўгі Панятоўскага. Болей за тое, 31 сакавіка 1764 году Кацярына заключыла з Прусіяй абарончую дамову ў абмен на абяцанне караля Фрыдрыха падтрымаць кандыдатуру Панятоўскага на выбарчым сойме.

Са свайго боку, канцлер Міхал Чартарыйскі арганізаваў у Беларусі і Літве генеральную канфедэрацыю шляхты ў падтрымку свайго пляменніка. На дапамогу канфедэратам у Беларусь увайшлі дзвюма калонамі расійскія войскі. Адну князь Валконскі вёў на Мінск, з другой князь Дашкоў пайшоў да Варшавы, каб ахоўваць на сойме Чартарыйскіх.

Станіслаў Аўгуст, пагадзіўшыся прыняць дапамогу Кацярыны, ведаў, што яго чакае. Яго тайна азнаёмілі з яе ўмовамі, галоўная з якіх гучала так: *«Увесь час свайго панавання інтарэсы нашай імперыі лічыць уласнымі, іх ахоўваць, ім усімі сіламі па магчымасці дапамагаць дзеля поспеху».* У жніўні 1764 году сойм аднагалосна абраў Панятоўскага каралём. Пры каранацыі ён прыняў імя Станіслаў Аўгуст замест Станіслаў Антоні, як назвалі яго бацькі пры хрышчэнні ў Воўчынскім касцёле святой Тройцы.

### Цень дынастычнай уніі

Гэтак ясна выказаная пяшчота да былога каханка, азначаная яшчэ і бітвай калоны Дашкова з варожай Чартарыйскім групоўкай Караля Радзівіла пад Слонімам, выклікала шырокія чуткі пра магчымы шлюб расійскай імператрыцы з польскім каралём і пра адпаведнае зліццё Расіі і Рэчы Паспалітай у адзіную дзяржаву – такіх памераў, што ўсе астатнія ператворацца побач з гэткім монстрам у карлікаў. Усхваляваліся ўсе суседзі, але найбольш – Асманская імперыя. Саюз дынастыяў мог стацца падставай вялікай еўрапейскай вайны з непрадказальнымі наступствамі. Кацярына, якая яшчэ не чулася ў сіле, напісала свайму паслу ў Стамбуле, каб ён ахарактарызаваў гэтыя чуткі як падкопы яе асабістых ворагаў.

*Заканчэнне на стар. 14*

# Смерць у абдымках імператрыцы

*Заканчэнне, пачатак на стар. 13*

Адначасна яна загадала князю Рапніну, які прадстаўляў яе ў Варшаве, прымусіць караля Панятоўскага публічна выказацца пра сваё жаданне ажаніцца выключна з прадстаўніцай польскага роду. Распачынаць вялікую вайну з туркамі ці ў Еўропе Кацярына лічыла для сябе яшчэ немагчымым, бо ёй было неабходна замацавацца на расійскім троне.

### Умова бясшлюбнасці

І да Панятоўскага, і пасля яго ў Кацярыны было шмат, як тады казалі, амарантаў. Афіцыйна займалі месца фаварыта дзесяць асобаў. Даследчыкі падлічылі, колькі яны каштавалі расійскаму скарбу. Арловы атрымалі 50 тысяч сялянаў, 17 мільёнаў рублёў і палацы. Васільчыкаў – 100 тысяч рублёў серабром, 50 тысяч залатымі рэчамі, пенсію ў 20 тысяч рублёў і 7 тысяч сялянаў. Пацёмкін – 37 тысяч сялянаў і каштоўнасцямі, палацамі, пенсіёнам каля 9 мільёнаў рублёў. Завадоўскаму дасталася 10 тысяч сялян на Украіне і ў Беларусі. Зорыч атрымаў маёнтак Шклоў коштам 500 тысяч рублёў і камандорства Мальтыйскага ордэна ў Беларусі, якое прыносіла 12 тысяч рублёў прыбытку ў год. Ланскі атрымаў болей за 7 мільёнаў рублёў, браты Зубавы – 3,5 мільёны рублёў. І гэтак далей.

Не ўступаючы ў шлюб сама, Кацярына выставіла гэткую ж умову і для Панятоўскага. Тут не было пачуццёвых ці душэўных падставаў, умова грунтавалася цалкам на палітычных разліках. Уласна, самой Кацярыне не было патрэбы мець афіцыйнага мужа. Яна лічылася ўдавою, у яе быў сын, у сына былі ўнукі, якіх яна любіла. Яна ведала, хто прыме пасля яе карону. Дазвол Панятоўскаму ажаніцца з якой небагатай полькаю не мог стварыць пагрозы дзяржаўнага ўзмацнення Рэчы Паспалітай. А вось магчымасць дынастычнай уніі з прадстаўніцай якойсці моцнай дзяржавы магла разбурыць палітычныя пабудовы, узведзеныя імператрыцай.

І сталася, што гэтыя два каранаваныя каханкі па заняцці тронаў панавалі адзінока. Праўда, і ў Станіслава Панятоўскага каханак было не меней, чым у расійскай імператрыцы, але ролю фаварыткі стала выконвала адна – Эльжбета. Блізкія адносіны між імі ўсталяваліся яшчэ ў 1764 годзе. Праз пяць год кароль выдаў Эльжбету за ўдаўца, генерал-лейтэнанта, маршалка слуцкай канфедэрацыі Грабоўскага. У шлюбе з ім яна нарадзіла двух дзетак. Ад караля Эльжбета мела дзвюх дачок Канстанцыю і Ізабэлу і трох сыноў – Міхала, Казіміра, Станіслава. Грабоўскі памёр у 1789 годзе, і тады энергічная Эльжбета дамагалася, што Станіслаў Аўгуст заключыў з ёй тайны шлюб. Праўда, сам кароль заўжды адмаўляўся ад гэткага свайго ўчынку, хоць і шкадаваў сваю фаварытку, у якой пасля хваробы вырас горб.

У адрозненне ад Кацярыны, якая мела ў сваім валоданні ўвесь скарб імперыі, выбарны кароль не мог быць такі шчодры на падарункі, але тым не менш Эльжбета атрымала спецыяльна збудаваны палац у Варшаве і 100 тысяч дукатаў (каля 1 700 000 залатых), а таксама мела 1200 дукатаў гадавога даходу з Гродна. Сума немалая, калі ўлічыць, што прыстойны гадавы кошт навучання дзяцей Грабоўскай у Рыме складаў 250 дукатаў.

### Паралелі з Ягайлам

Кацярына з усіх навукаў найболей любіла гісторыю. Яна ўмела чытаць па некалькі тамоў на дзень, добра памятала прачытанае і пры нагодзе магла бліснуць нечаканымі ведамі. Ведала яна і гісторыю шлюбу польскай каралевы Ядвігі з вялікім князем літоўскім Ягайлам, што меў наступствамі хрышчэнне Літвы, пераезд Ягайлы ў Кракаў, юрыдычнае, а з цягам часу і фактычнае паглынанне Польшчай Вялікага княства Літоўскага, што павялічыла тэрыторыю польскага каралеўства за кошт далучаных Украіны, Беларусі і Літвы. Любоўны раман Кацярыны і Станіслава Аўгуста аказаўся для Польшчы люстраным адбіткам таго даўняга дынастычнага шлюбу, які прыкончыў дзяржаву Альгерда.

У Кацярыны, можна мовіць, узнікла творчая задума паўтарыць гісторыю ў адваротным кірунку. У канцы 1795 году, пасля трох падзелаў, яна магла аглядаць справу сваіх рук. Цалкам магчыма, што каб не здарыўся раман з Панятоўскім, ніколі б Станіслаў Аўгуст не стаў каралём, а польскі трон заняў бы хто-небудзь з Габсбургаў, і гісторыя гэтай часткі Еўропы мела б зусім іншы характар. Але рэальнасць нязменная, і таму, параўноўваючы каралеву Ядвігу з каралём Станіславам Аўгустам, даводзіцца канстатаваць, што ён не здолеў зрабіць нічога, каб абараніць сваю дзяржаву. Смеласць планаў Кацярыны выглядала казачна: яна марыла вызваліць ад туркаў Канстанцінопаль, адрадзіць грэцкую дзяржаву, валадаром якой яна хацела паставіць свайго ўнука Канстанціна Паўлавіча, які невыпадкова атрымаў гэткае значнае імя. У параўнанні з такімі праектамі перабудовы палітычнай прасторы Еўропы незадаволенне польскага народа ці паўстанні ў Рэчы Паспалітай не маглі яе нават усхваляваць. Лёс Рэчы Паспалітай быў вырашаны. Літаральна з той хвіліны, як Станіслаў Аўгуст прыняў тайныя ўмовы і стаў марыянеткавым каралём, Кацярына пачала здзяйсняць тое, дзеля чаго дазволіла свайму былому каханку ўзняцца на вяршыню ўлады.

### З'едзеная Рэч Паспалітая

Расія і Прусія, ставячы перашкоды любым рэформам польскай дзяржавы, скіраваным на ўзмацненне ўлады, войска і эканомікі, прапанавалі сойму 1766 году зраўнаць у правах дысідэнтаў (праваслаўных і пратэстантаў) з каталікамі. Сойм катэгарычна адмовіўся. Тады намаганнямі дыпламатаў Кацярыны былі створаны Слуцкая праваслаўная і Торунская пратэстанцкая канфедэрацыі. Кацярына падмацавала слуцкіх канфедэратаў 40-тысячным расійскім войскам.

У сувязі з гэтым Панятоўскі пісаў свайму прадстаўніку пры пецярбургскім двары Ржэўскаму: *«Апошнія загады, дадзеныя Рапніну, увесці дысідэнтаў нават у заканадаўчыя ўстановы, як громам уразілі і мяне, і краіну. Калі яшчэ ёсць магчымасць, пераканайце імператрыцу, што карона, якую яна мне даставіла, стане для мяне хітонам Неса. Яна мяне спаліць, і смерць мая будзе жахлівая...»*

Кацярына адказала ўласнаручным лістом, у якім прасіла сваё стварэнне дазволіць Рапніну рабіць сваю справу, а то *«імператрыцы прыйдзецца вечна шкадаваць аб тым, што яна магла памыліцца ў сяброўстве караля, у яго думках і ў яго пачуццях»*. Панятоўскі, наіўна не верачы ў такую жорсткасць, пачаў настойваць і атрымаў у адказ апошняе папярэджанне: *«Мне застаецца толькі аддаць гэтую справу лёсу... Я заплюшчваю вочы на наступствы; мне, аднак, прыемна, што ваша вялікасць дастаткова разгледзелі бескарыслівасць усяго, што я зрабіла для вашай вялікасці і для вашага народу, каб мяне не ўпікалі тым, што я шукала ў Польшчы выпадку прымяніць сілу сваёй зброі... Яна ніколі не будзе скіраваная супраць тых, каму я жадаю дабра, як я і не буду стрымліваць яе, калі палічу, што ўжыванне зброі будзе на карысць».*

Ужыванне аказалася «на карысць» надта хутка.

### Фінал караля

Тры падзелы Рэчы Паспалітай, якія сцерлі яе з палітычнай карты свету, – асобная тэма. Істотна адзначыць, што смяротнасць абдымкаў Кацярыны Панятоўскі адчуў ужо ў жніўні 1772 году, калі ў Пецярбургу была падпісана тайная Канвенцыя паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй пра першы падзел. У красавіку сойм, які сабраўся ў Гродне, ратыфікаваў той першы, як выявілася – толькі пачатковы, пір драпежнікаў.

А праз дваццаць тры гады кароль са сваім дваром пакінуў Варшаву і пад даглядам князя Рапніна пераехаў у Гродна, дзе 25 лістапада 1795 году ў новым каралеўскім замку падпісаў Акт адмаўлення ад кароны Рэчы Паспалітай. Тут ён пражыў год да скону Кацярыны. Так яны і не сустрэліся зноў на гэтым свеце. Магчыма, яна не жадала ўспамінаў з дзён далёкай маладосці. А можа, ёй не хацелася бачыць чалавека, які не знайшоў у сабе мужнасці біцца за ўладу, не ўзначаліў войска, аддаў яго пад камандаванне простага шляхціца Касцюшкі, не ратаваў асабістага гонару і гонару дзяржавы. Сама Кацярына Акту адмаўлення ніколі б не падпісала.

Павел І, прыняўшы па маці расійскі трон, выклікаў Панятоўскага ў Пецярбург. Праз трыццаць пяць гадоў, ужо пазбаўлены кароны, Панятоўскі зноў убачыў Неўскі праспект, Зімні і збудаваны за час яго адсутнасці Кацярынай для Грыгорыя Арлова Мармуровы палац, які Панятоўскаму і прапанавалі заняць. Перад ім вязнем гэтага палацу быў Тадэвуш Касцюшка. Тут былога караля наведаў Павел, а потым яму дазволілі ехаць у далёкую Маскву і стаяць на нагах усю даўгую каранацыю сына Кацярыны, якога ён упершыню бачыў двухгадовым дзіцем. Павел паставіўся да былога каханка сваёй маці даволі прыязна: дазволіў трымаць асабістую гвардыю, павялічыў пенсіён з 11 тысяч да 16,5 тысяч на месяц, экскароль мог каго заўгодна прымаць, мог хадзіць у касцёл святой Кацярыны, але не мог пакінуць расійскую сталіцу. Ён памёр ад апаплексічнага ўдару а 10 гадзіне вечара 12 лютага 1798 году і быў пахаваны ў Кацярынінскім касцёле на Неўскім праспекце, дзе яго труна, замураваная ў нішу, стаяла ў спакоі 140 гадоў.

### Вяртанне на радзіму

У 1938 годзе труной Панятоўскага нечакана зацікавіўся Сталін. Вырашыўшы з нейкіх прычын палепшыць свае адносіны з «белапанскай» Польшчай, Сталін не прыдумаў нічога лепшага, як вярнуць палякам парэшткі апошняга караля Рэчы Паспалітай. Нішу ў касцёле адкрылі, труну Станіслава Аўгуста змясцілі ў большую новую, і спецыяльны цягнік даставіў яе на тагачасную польска-беларускую мяжу, на станцыю Негарэлае, якая была прапускным пунктам паміж СССР і Еўропай. Аднак Сталін не ўлічыў, што ў адроджанай Польшчы кароль Станіслаў Аўгуст не меў павагі, на ягонай памяці стаяла каінава пячатка здрадніка краіны, баязліўцы, які дазволіў радзіме гінуць у сябе на вачах, не стаў героем і нават не паспрабаваў выйсці на поле бітвы. Таму польская ўрадавая дэпутацыя, якая прымала парэшткі, не ведала, што з імі рабіць. Везці караля ў Вавельскі касцёл, дзе спачывалі вечным сном шанаваныя польскія каралі і героі дзяржавы, не адважыліся, а палічылі за найлепшае выйсце з няпростай сітуацыі змясціць парэшткі ў касцёле святой Тройцы былога сямейнага маёнтка Панятоўскіх у Воўчыне. Такім чынам апошні кароль Рэчы Паспалітай апынуўся тамсама, дзе некалі яго хрысцілі. Неўзабаве адбылося ўз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР, а потым была вайна, а пасля вайны атэістычнае разбурэнне святыняў, якое прывяло касцёл у поўнае запусценне. У 1989 годзе навукоўцы спрабавалі адшукаць у Воўчыне парэшткі караля. Але ў сутарэннях моцна пашкоджанага касцёла знайшлі толькі рэшткі дубовай труны, у якой яны некалі захоўваліся. Хто і калі забраў астанкі Станіслава Аўгуста, застаецца таямніцай.

Кацярына спачывае ў Петрапаўлаўскім саборы Петрапаўлаўскай крэпасці, Станіслаў Аўгуст – невядома дзе.



Мармуровы палац – прытулак Станіслава Аўгуста Панятоўскага



Петрапаўлаўскі сабор у Пецярбургу


Фота У.Шлапака


Фота У.Шлапака

# Помста пляцу Волі,

## альбо Колькі галоваў у старшыні Мінгарвыканкама Паўлава?

Неяк у адным з выпускаў праграмы «Панарама», які выйшаў у эфір на беларускім тэлебачанні, быў паказаны сюжэт пра знос дрэваў у двары аднаго з дамоў па вуліцы В.Харужай у Мінску.

Знішчэнне зялёных пасадак адбывалася пад выглядам рэканструкцыі дваровай тэрыторыі. Жыхары бліжэйшых дамоў вельмі абураліся, што былі спілаваны дрэвы, якія яны самі садзілі, пад якімі любілі адпачываць. Сюжэт нейкім цудам патрапіў на вочы прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку. Цяжка ўявіць, якой была яго рэакцыя ў хвіліну прагляду рэканструкцыйнага злачынства, але 27 сакавіка 2002 году на імя старшыні Мінгарвыканкаму была накіравана наступная запіска:

*«М.Я.Павлову*

*За каждое дерево, бездумно срубленное, ответите головой!*

*Порядок здесь один – сохранить природу!*

*А.Лукашенко»*

Гэтая запіска, відаць, выклікала сапраўдны вэрхал у апаратных структурах гарадской улады. Разбірацца з усёй гэтай небяспечнай гісторыяй давялося першаму намесніку старшыні Мінгарвыканкама Ярохаву. Тэрміновы былі раздадзены даручэнні ўсім падначаленым структурам, начальнікам адміністрацый раёнаў было даручана ўзяць пад кантроль кожнае рашэнне па высяканні (знішчэнні) дрэваў у горадзе. Упраўленні і камітэты Мінгарвыканкаму былі строга папярэджаны: *«Позиция президента всем должна быть известна и исполняться всеми, кто имеет к этому отношение».*

Адначасова кіраўніцтва гораду накіравала прэзідэнту інфармацыю, у якой падрабязна распісвала выкананне яго даручэння, дакладвала, што будуць зроблены ўсе захады, каб больш такіх здарэнняў не было. А што тычыцца далейшага лёсу двара па вуліцы В.Харужай, Ярохаў паабяцаў, што *«...в связи с обращениями части жильцов работы приостановлены. В настоящее время планируется проведение повторной встречи с жителями дома по разъяснению предлагаемых проектных решений устройства дворовой территории. Дальнейшее производство работ будет осуществляться с учетом мнения жильцов».*

Нарэшце чыноўнікі маглі ўздыхнуць спакойна. Галовы ў таварыша Паўлава і яго намеснікаў засталіся на месцы, а пра розныя айцанкі начальству з цягам часу дазволена забывацца.

І вось у чэрвені ў Мінску неабязгалоўленыя чыноўнікі дазволілі не проста высякаць старыя дрэвы, а цалкам знішчыць адзін з самых старажытных і каштоўных сквераў гораду, які знаходзіцца пасярод пляцу Волі. Нішчыць гэты помнік мінскай даўніны пачало сумнавядомае закрытае акцыянернае таварыства «Стары Менск», якое ўжо шмат гадоў гаспадарыць у гістарычным цэнтры нашай сталіцы, руйнуючы пад выглядам рэстаўрацыі культурную спадчыну. Было спілавана некалькі дзесяткаў дрэваў, зруйнаваны былы фантан, які знаходзіўся ў цэнтры сквера на месцы колішняга помніка цару-вызваліцелю. На яго месцы зараз выкапаны велізарны катлаван, і што ў ім будзе — загадка. Да месца нагадаць, сквер, што стаіць на пляцы Волі, уяўляе вялікую гістарычную каштоўнасць як помнік гісторыі і садова-паркавага мастацтва, ён знаходзіцца пад аховаў дзяржавы.

З дзіўных прычын гэты факт знішчэння старажытных дрэваў не выклікаў цікавасці ў прэзідэнта рэспублікі, хоць ён часцяком праязджае паўз былы прытулак мінскіх мастакоў. Магчыма, тэлебачанне падманвае людзей, бо па канале СТБ быў паказаны сюжэт пра тое, што таварыства «Стары Менск» заклапочана аднаўленнем будынка менскай ратушы, якая калісьці стаяла ў цэнтры пляца Волі побач са скверам, і рэстаўрацыяй тэрыторыі старадаўняга сквера. Дзіўная ж у звычках «Старога Менску» рэстаўрацыя: спачатку зруйнаваць дашчэнту, а потым адраджаць. Адным з аргументаў за знішчэнне сквера было тое, што старыя дрэвы замінаюць аднаўленню будынка ратушы. Але добра вядома, што калі ў 1980-я гады археолагі выявілі і даследавалі падмуркі Мінскай ратушы, то высветлілася, што яна знаходзілася не ў цэнтры сквера, а побач з будынкам Гасцінага двара і ніякіх старых дрэў для яе аднаўлення не трэба было высякаць. Будаўнікі кажуць, што на месцы старога сквера нібыта плануецца пабудаваць падземны музей гісторыі Мінску. Але чамусьці ніхто з кіраўніцтва гораду не падумаў, што каб стварыць музей, зусім не патрэбна знішчаць яго сапраўдную гісторыю і помнікі культуры. Таму, хутчэй за ўсё, бліжэйшым часам мы ўбачым, як з падзямелля на пляцы Волі будуць выязджаць аўтамашыны нуварышаў. Дарэчы, капаючы катлаван, будаўнікі знішчылі і старажытныя падмуркі Мінскай ратушы 17–18 стагоддзя, якія першапачаткова планавалася захаваць. Праект пілавання дрэваў і знішчэння фантана на плошчы Свабоды быў узгоднены ўсімі зацікаўленымі структурамі Мінгарвыканкаму, а таксама Дэпартаментам па ахове помнікаў культуры Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь з тымі новымі асобамі, ад якіх наіўныя людзі чакалі клопату пра ахову помнікаў.

Можна спадзявацца, што ўсё ж прэзідэнт стрымае слова – хоць не ў прамым сэнсе слова, а ў кар'ерным, і хоць адна чыноўная галава растанецца са сваім месцам. Бо з такімі галовамі, як у мінскіх чыноўнікаў, можна застацца з голым асфальтам вуліц і пляцаў ды іхнімі мерседэсамі.

**Антон БРАНКЕВІЧ**

НЕСВАБОДА СУМЛЕННЯ

# Чыноўнікі руйнуюць царкву

У пасёлку Пагранічным Бераставіцкага раёну будуецца першы храм Беларускай аўтакефальнай царквы. Райвыканкам прыняў рашэнне аб зносе «самавольна ўзведзенай пабудовы Спасюком І.Г.» – дома і дамовай царквы кіраўніка незарэгістраванай Беларускай аўтакефальнай царквы Яна Спасюка.

Калі святар Іван Спасюк не зробіць гэтага сваімі рукамі, улады прышлюць тэхніку з мясцовай ПМК. На разбурэнне храма святару далі фактычна адзін дзень. Афіцыйная акцыя разбурэння прызначана на 25 ліпеня. Каля храма ў гэты час павінны сабрацца вернікі.

Храм выбудаваны прыкладна напалову. Перад ім пастаўлены крыж, а на 2 жніўня было запланавана першае набажэнства. Ян Спасюк заяўляе, што ўсе неабходныя дакументы і дазвол ім былі атрыманы. Кампанія запалохвання будаўнікоў і вадзіцеляў, якія падвозілі будаўнічыя матэрыялы, пачалася, калі ўлады даведаліся, што будуецца царква. Ім пагражалі звальненнем. Сам кіраўнік незарэгістраванай Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы быў выкліканы ў падатковую інспекцыю, дзе ад яго запатрабавалі дэкларацыю аб даходах.

Дастатковай падставай для разбурэння храма ўлады лічаць тое, што царква ў Пагранічным не належыць да РПЦ Маскоўскага патрыярхату. Відавочна, што РПЦ страчвае аўтарытэт і не можа існаваць без рэпрэсіяў супраць іншадумцаў.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

НАГОДА ЎСПОМНІЦЬ

### 26 ліпеня

**657.** У бітве каля Сіфіну мусульмане-суніты разбілі шыітаў, падмануўшы іх тым, што наблізіліся да ворага з дзідамі, прыкрытымі старонкамі Карану.

**1722.** Пачатак тэрору супраць індзейцаў. У Бостане агалошваецца адмысловая дэкларацыя, якая абвяшчае ім вайну. За скальп аднаго індзейца абяцана да 100 фунтаў.

**1847.** Ліберыя стала першай афрыканскай калоніяй, якая атрымала незалежнасць.

### 27 ліпеня

**1147.** Дзень заснавання расійскай сталіцы Масквы.

**1777.** Нарадзіўся шатландскі паэт Томас Кемпбэл. Ён заклікаў стварыць у Лондане ўніверсітэт, дзе маглі б вучыцца студэнты, што не патрапілі з рэлігійных ці матэрыяльных прычын у Кембрыдж ды Оксфард.

**1862.** Ад тайфуну ва Усходнім Кітаі загінулі дзесяткі тысяч чалавек.

**1882.** Нарадзіўся англійскі авіяканструктар Джэфры дэ Хавіленд, які ў 1949 годзе стварыў першы ў свеце рэактыўны авіялайнер *Comet*.

**1937.** У Крамлі наркаму Яжову ўручаюць ордэн Леніна. Уручаючы яго, Міхаіл Калінін сказаў: «Мікалай Іванавіч выявіў выключна шырока свае здольнасці, багата папрацаваў і дамогся выдатных вынікаў».

### 28 ліпеня

**1794.** На гільяціне адсеклі галовы Рабесп'еру, Сен-Жусту і яшчэ двум дзесяткам іхніх паплечнікаў. Гэтак скончылася якабінская дыктатура.

**1942.** Савецкае кіраўніцтва выдала загад № 227, які забараніў пад пагрозай расстрэлу любое адступленне і ўвёў штрафныя батальёны.

**1952.** Беларус па паходжанні і будучы міністр замежных справаў СССР Андрэй Грамыка стаў савецкім паслому Англіі.

**1957.** Нарадзіўся сучасны тэрарыст № 1 Усама бін Ладэн.

### 29 ліпеня

**1507.** Памёр нямецкі географ Марцін Бейхайм, які разам з мастаком Георгам Глокенданам стварыў першы глобус.

**1817.** Нарадзіўся мастак-марыніст Іван (Аванес) Айвазоўскі, якога Дастаеўскі называў «майстрам без супернікаў». Сын армянскага камерсанта з Крыму, Айвазоўскі намаляваў цягам жыцця каля 6 тысяч карцін, забагаціў і пабудаваў у роднай Феадосіі марскі порт і чыгунку.

**1907.** Створана сусветная арганізацыя скаўцкага руху.

### 30 ліпеня

**1937.** Згодна з загадам НКУС, утвараюцца сумна вядомыя «тройкі», якія праводзілі рэпрэсіі супраць кулакоў, чальцоў антысавецкіх партыяў, белагвардзейцаў, святароў і г. д. У склад «тройкі» ўваходзілі старшыня абласнога ўпраўлення НКУС, абласны пракурор і сакратар абкаму кампартыі.

**1947.** Нарадзіўся амерыканскі кінаакцёр аўстрыйскага паходжання Арнольд Шварцэнэгер, які пачынаў сваю кар'еру як культурыст.

**1967.** Памёр апошні прадстаўнік дынастыі гарматных каралёў Альфрэд Круп. Падчас Другой сусветнай вайны выкарыстоўваў працу вязняў канцлагераў, таму патрапіў пад Нюрнбергскі трыбунал, дзе быў вырачаны на 12 гадоў турмы з канфіскацыяй маёмасці. У 1950-ых Альфрэд Круп быў амніставаны і адноўлены ў правах уласнасці. На пачатку 1960-ых ягоны капітал перавышаў мільярд даляраў. Адзіны ягоны сын Арндт адмовіўся браць у спадчыну бацькаву прамысловую імперыю і нават прозвішча. Гэтак і перарвалася дынастыя.

### 31 ліпеня

**1557.** Памёр Ігнацій Лаёла, іспанец, заснавальнік ордэна езуітаў.

**1849.** У веку 26 гадоў памёр венгерскі паэт Шандар Пецёфі. Паводле адной версіі, паэт загінуў у бітве каля Шэгешвара ў часе нацыянальна-вызвольнай рэвалюцыі 1848–49 гадоў, якую жорстка задушыла Аўстрыя з дапамогай Расіі. Паводле другой версіі, Пецёфі сярод амаль 2 тысяч палонных венграў быў адпраўлены па этапе ў Сібір, дзе і памёр.

**1937.** У ходзе масавай аперацыі савецкіх спецслужбаў цягам аднаго дня арыштаваныя тысячы жыхароў Чачні.

**1992.** У космасе адначасова знаходзіліся касманаўты адразу з 5 краінаў – ЗША, Францыі, Італіі, Швейцарыі ды Расіі.

### 1 жніўня

**1040.** Макбет забіў свайго стрыечнага брата, караля Шатландыі Дункана ў бітве пры Элгіне і стаў новым каралём. Гэты сюжэт Уільям Шэкспір скарыстаў у п'есе «Макбет»; праўда, у яго Макбет зарэзаў Дункана ў ложку.

**1927.** Дата заснавання Народна-вызвольнай арміі Кітаю, якая адзначаецца ў гэтай краіне як нацыянальнае свята. У гэты дзень у Наньчане (правінцыя Цзянсі) пад кіраваннем камуністаў пачалося паўстанне супраць ураду Гаміньдана.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

# Астралагічны прагноз

## ад Веранікі Кудраўцавай на 26 ліпеня – 1 жніўня

*Астрапрагноз адлюстроўвае агульны прыродны сацыяльна-псіхалагічны фон накшталт прагнозу надвор'я. Індывідуальнае прагназаванне будуецца на дакладных звестках: улічваецца дзень, месяц, год, месца і час народзінаў чалавека.*



**АВЕН.** Не спрабуйце навязаць свае задачы іншым, забудзьце пра глабальныя праблемы, паглядзіце на ўсё з пункту гледжання радасцяў жыцця. Высокую значнасць мае шчаслівы выпадак, асабліва ў аўторак, а таксама лірычнае знаёмства. Добра заняцца асабістымі стасункамі, правесці заручыны, падумаць пра народзіны дзіцяці.



**ЦЯЛЕЦ.** Вам уласціва хваравіта ўзбуджанае ўяўленне, высокая небяспека моцных нервовых зрываў і нават уцёкаў ад рэчаіснасці праз алкаголь ці таблеткі. Будзьце мацнейшымі за капрызныя парывы. На самым пачатку тыдня сваякі ці блізкія гатовы памагчы матэрыяльна, так што вы зусім не самотны.



**БЛІЗНЯТЫ.** Не выключана абвастранне фобіяў і маніяў сярод блізкіх, павышана верагоднасць рабункаў, крадзяжоў. Таму варта асцярожней ставіцца да падазроных тыпаў, перагледзець кола знаёмстваў. Варта таксама быць надзвычай асцярожным на дарозе. На самым пачатку тыдня ад партнёраў ці сужонка мяркуецца прыемны ці перспектыўны сюрпрыз. Трымайцеся за іх, як за саломінку.



**РАК.** Павышана верагоднасць апёкаў, уколаў вострым прадметам, атручэння лекамі, бруднай вадой, праявы інфекцыяў і алергіі. Добра заняцца чысткаю арганізму, ліквідаваць названыя фактары рызыкі, пазбаўляцца ад лішняй вагі. Напачатку тыдня сярод калегаў накрэсліваюцца станоўчыя перамены, не выключана прэмія.



**ЛЕЎ.** Абставіны штурхаюць да развіцця скандалаў, разрываў адносін. Лішняя даверлівасць караецца падманам. Не абвастрайце стасункаў з нікім, гэта можа кепска скончыцца. Павышана рызыка інфарктаў і інсультаў. Някепска было б увогуле з'ехаць на адпачынак. Але на самым пачатку тыдня верагодна заахвочванне.



**ПАННА.** Пануюць няяснасць думак, непрактычнасць, няпэўныя страхі. Таму не выключаны небяспечныя сітуацыі на дарогах, у паездках, цяжкасці ў навучанні. Могуць выявіцца схаваныя хваробы. Калі ўжо навідавоку нестыкоўкі і зрывы планаў, то лепш не прымаць адказных рашэнняў. «Падпольныя» дзеянні, перамовы даюць свае станоўчыя вынікі ў канцы тыдня.



**ШАЛІ.** Варта пільна кантраляваць думкі і ўчынкі, пазбягаць нерваванняў, бо сардэчна-сасудзістая сістэма можа даць збой. На самым пачатку тыдня выдатна могуць прайсці рэкламная кампанія, самапрэзентацыя, а таксама судовыя працэсы.



**СКАРПІЁН.** Не варта браць на сябе абавязанняў, супрацьпаказана цяжкая праца. Пастаўцеся больш паблажліва да дробных перашкодаў, якія раздражняюць, да замінак у рэалізацыі праектаў. Ёсць сэнс падымаць фінансавае пытанне ў першыя два дні тыдня, і праясніць сітуацыю з станам здароўя.



**СТРАЛЕЦ.** Навідавоку ментальна-эмацыйны сумбур, самападман. Магчыма ўдача ў каханні, творчасці, правядзенні перамова. Ёсць шанец падпісаць перспектыўнае пагадненне, выйграць у латарэю ці іншую гульню, асабліва ў аўторак.



**КАЗЯРОГ.** Варта перадольваць дзіўныя ці дарагія жаданні. Верагодныя валютна-фінансавыя праблемы. Ірацыянальныя матывы нясуць згубу, не абражайце нікога, праверце надзейнасць замкоў і сігналізацыі на дзвярах.



**ВАДАЛІЎ.** Будзьце гатовы, што супраць вас можа шмат хто выступіць. Аптымістычныя, ласкавыя і спакойныя тоны сумоўя на самым пачатку тыдня вельмі спрыяюць усталяванню міру з тымі, з кім вы паспелі пасварыцца. Скарыстайце з гэтага, бо скандал мае тэндэнцыю разгарацца. На самым пачатку тыдня праз дзяцей ці каханага прыходзіць удача.



**РЫБЫ.** На фоне спажывання спіртных напояў ці лекавых прэпаратаў непрадказальным чынам могуць развіцца прыкрыя падзеі. Абставіны штурхаюць чалавека на негатыўную стымуляцыю, перамагчы якую дапаможа толькі ўстрыманне і захопленасць працаю. Нехта з родных і блізкіх можа прынесці абнадзейлівыя звесткі ці падарунак на самым пачатку тыдня.

### НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




НАВУКА

# Болей тлушчу – будзеш зграбны

Дыетолагі ўсё болей прыходзяць да парадаксальнай высновы, якая супярэчыць уяўленням пра здаровую ежу, што пануюць апошнія 25 гадоў: тлушч не такі шкодны, як лічылася дагэтуль. Вядомы дыетолаг Роберт Аткінс ужо даўно выступае супраць спажывання вугляводаў, заклікаючы замяніць іх у рацыёне на тлушчы.

Прыхільнікі вугляводнай дыеты, якія апошнім часам мелі перавагу ў спрэчках пра карысную ежу, не могуць пахваліцца тым, што іх рэкамендацыі спынілі ў ЗША эпідэмію паўнаты. Паводле ж Аткінсавай тэорыі, да павелічэння вагі прыводзяць якраз вугляводы, што ўтрымліваюцца ў мучной ежы, а таксама цукар з пладовых сокаў і іншых напояў.

З Аткінсам паступова пачынаюць пагаджацца і іншыя спецыялісты. Напрыклад, кіраўнік аддзялення харчавання гарвардскай школы грамадскага здароўя Уолтэр Уілет. Ягоныя высновы грунтуюцца на выніках самых доўгатэрміновых і поўных даследаванняў, якія калі-колечы рабіліся ў галіне дыеталогіі – у базе звестак аддзялення сабрана інфармацыя пра больш як 300 тысяч чалавек.

Уілет лічыць, што атрыманыя звесткі супярэчаць заявам пра адназначную шкоду тлушчу. «Лішняя сфакусаванасць спецыялістаў на негатыўных уласцівасцях тлушчу магла прычыніцца да распаўсюджання паўнаты», – кажа ён. Да прыкладу, у ЗША колькасць тых, хто церпіць на лішнюю вагу, пачала імкліва расці ад пачатку 1980-х гадоў. Якраз тады набірала папулярнасць догма пра карыснасць харчу з нізкім утрыманнем тлушчу.

Спецыялісты адзначаюць, што вугляводы сапраўды выдзяляюць пры пераатраўліванні шмат энергіі. Да таго ж такога харчу, каб наесціся, трэба спажыць нямала. Тлустымі прадуктамі прасцей наесціся, а значыць, за адзін раз можна спажыць меней калорыяў.

Акрамя таго, прыхільнікі нетрадыцыйнай дыеты сцвярджаюць, што чалавечы арганізм не ідэальна прыстасаваны для спажывання крухмалу і цукраў. Яны практычна адсутнічалі ў рацыёне чалавека да ўзнікнення сельскай гаспадаркі, а ёй жа ўсяго каля 10 тысяч гадоў.



**Ужо сто гадоў у германскім горадзе Куксхавене на ўзбярэжжы Паўночнага мора існуе традыцыя конных заездаў не на іпадроме, а па паласе прыбою. На гэтыя экзатычныя спаборніцтвы лічаць за гонар патрапіць лепшыя жакеі Еўропы.**

# Самая старажытная хрысціянская царква

У порце Акаба, што на поўдні Іарданіі, на Чырвоным моры, знойдзена самая старажытная хрысціянская царква ў свеце. Гэтае адкрыццё зрабіла сумесная амерыканска-канадска-еўрапейская экспедыцыя.

Як заявіў кіраўнік экспедыцыі амерыканскі прафесар Томас Паркер, экспедыцыя вяла раскопкі ў пошуках муроў старажытнай Акабы – візантыйскага гораду, гістарычная назва якога – Іле. У ходзе раскопак за мурам старажытнага гораду была знойдзена царква, плошча якой прыкладна 416 квадратных метраў, а вышыня – ад трох да пяці метраў. Даследаванне, праведзенае экспедыцыяй, паказала, што гэта самая старажытная хрысціянская царква на зямлі. Спецыялісты лічаць, што яна была пабудавана ў 300 годзе нашай эры. У той гістарычны перыяд хрысціяне, на якіх у Рымскай імперыі было жорсткае ганенне, маліліся па сваіх дамах або ў тайных пячорах.

СВЯТАЯ

# Маці Тэрэза Калькуцкая



**Маці Тэрэза – рэлігійная і грамадская дзяячка. У свеце – Агнэса Гонджа Баяджыу. Нарадзілася яна 27 жніўня 1910 г. на Балканах: лічыцца, што ў Албаніі, але ў дні яе пахавання Рэспубліка Македонія заявіла, што месцам яе нараджэння быў горад Скоп'е, сталіца гэтай дзяржавы.**

У веку 12 гадоў дзяўчынка вырашыла стаць манахіняй, у 18 уступіла ў кангрэгацыю ларэцкіх сясцёр – ірландскі каталіцкі ордэн, які вёў місіянерскую дзейнасць у Індыі. У 1931 годзе прыняла пострыг і атрымала імя Тэрэзы ў гонар кананізаванай у 1937 годзе францішканскай манахіні Тэрэзы, вядомай сваёй дабрынёй і міласэрнасцю. Спачатку яна працавала ў школе для дзяўчатак у Дарджылінгу, горадзе на поўнач ад Калькуты; цягам 20 гадоў выкладала геаграфію ў школе св. Марыі паблізу Калькуты, колькі гадоў была дырэктаркаю гэтае школы.

У веку 36 гадоў адчула пакліч «пакінуць кляштар і служыць бедным, жывучы сярод іх». Праз два гады, у 1948-м, яна заснавала Ордэн міласэрнасці – манаскую кангрэгацыю дзеля дапамогі бедным і хворым – і прысвяціла сябе служэнню бяздольным жыхарам калькуцкіх трушчобаў. У год, калі яе кангрэгацыя была афіцыйна прызнана Царквою (1950), маці Тэрэза прыняла індыйскае грамадзянства. Ордэн ствараў школы, прытулкі, бальніцы для бедных і цяжка хворых людзей, незалежна ад іх нацыянальнасці і веравызнання.

З 1965 г. дзейнасць Ордэну выйшла за межы Індыі, і на сённяшні дзень ён мае 400 аддзяленняў у 111 краінах свету і 700 дамоў міласэрнасці ў 120 краінах. Яго місіі, як правіла, дзеюць у раёнах стыхійных і эканамічных няшчасцяў. У 1979 г. Тэрэзе Калькуцкай была прысуджана Нобелеўская прэмія «За дзейнасць у дапамогу чалавеку, які пакутуе».

Сама Тэрэза кніг не пісала – зашмат было справаў і без кніг; да таго ж яна лічыла, што прапаведаваць трэба без словаў, прыкладам свайго жыцця. Пачаўшы з 1982 году, паслядоўнікі маці Тэрэзы і яе памочнікі ў місіі пачалі публікаваць гутаркі маці Тэрэзы з сёстрамі, вытрымкі з яе выступаў на міжнародных канферэнцыях, яе звароты, гутаркі са шматлікімі сябрамі.

Маці Тэрэза падымалася а палове чацвёртай раніцы. Пасля кароткага набажэнства пачыналася служэнне. Цягам дня яна выконвала тую ж працу, што і іншыя сёстры. Часта яна працавала цэлы дзень, не спыняючыся нават, каб перадыхнуць ці прагнаць смагу. Тых, да каго спяшалася маці Тэрэза, яна называла «мае людзі». Натхняючы ўсіх сваім энтузіязмам, яна ўвесь час знаходзіла новыя і новыя спосабы памагчы тым, хто церпіць.

Яе місія – не крытыкаваць, не выкрываць, а асвятляць шлях, – шлях да нашага сэрца. «У чым сакрэт поспеху вашае місіі?» – не раз пыталіся маці Тэрэзу журналісты. Яна адказвала заўжды адно: «Усё вельмі проста. Трэба рабіць усё, нават вельмі малыя справы, з вельмі вялікай любоўю».

Сама маці Тэрэза была чалавекам негаваркім. Прысвяціўшы ўсю сябе без астатку людзям, яна была ўвасабленнем малітвы, якую найбольш любіла і якую ўвасобіла ў сваё жыццё.

Маці Тэрэза аднойчы сказала пра сваё служэнне, што яно заснавана на яе веры ў Хрыста. «З-за таго, што мы не бачым Хрыста, мы не можам выказаць Яму нашу любоў, але бліжніх заўжды можам бачыць і ў дачыненні да іх паводзіць сябе так, як паводзілі б сябе ў дачыненні да Хрыста, калі б бачылі Яго».

Памерла Маці Тэрэза ў Калькуце 5 верасня 1997 году ў веку 87 гадоў. Цяпер разглядаецца пытанне пра яе кананізацыю.

Галоўны рэдактар Павел ЖУК
© НАША СВАБОДА
Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая.
Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
тэл. 210-02-53, факс 210-02-54
Адрас для пошты: 220123, г.Мінск, а/с 103
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г.
Заснавальнік Зміцер Жук. г. Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА.
Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная зорка»
220073, г. Мінск, Першы Загарадны завулак, 3. Заказ № 1189
Нумар падпісаны ў друк 25/07/2002 (12:00) Наклад – 6.780